СЯРГЕЙ СЕРАДА

# ДЗЕЛАВОД

=УЗОРЫ ОФІЦЫЯЛЬНЫХ ПАПЕР,=
СЛОЎНІК ТЭХНІЧНА-КАНЦЭЛЯРСКІХ
ВЫРАЗАЎ І ІНШЫЯ, ПАТРЭБНЫЯ
═ Ў ДЗЕЛАВОДЗТВЕ ВЕДЫ ═

Пад рэдакцыяй М. КРАСІНСКАГА



ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
МЕНСК—1926




„БДВ № 88. Галоўлітбел № 15783.
1-ая дзярж. друк. Зак. № 417. У ліку 5000 экз.



# Ад аўтара.

Гэтая праца зьявілася ў выніку адчуванае вялікае патрэбы—прыйсьці з дапамогай працаўнікам Савецкіх установаў пры вядзеньні імі офіцыяльнае перапіскі на беларускай мове. Расійска-беларускія слоўнікі, якія вышлі дагэтуль, ня мелі на ўвазе спэцыяльных выразаў, якія ўжываюцца ў офіцыяльнай перапісцы, і дзеля таго вельмі часта канцэлярскі працаўнік не знаходзіў належнага слова пры перакладах на беларускую мову. Прапанованая ўвазе гэтая праца мае на мэце—забясьпечыць ведамі з беларускае мовы і некаторым запасам слоў канцэлярскага працаўніка ў яго штодзеннай працы.

15-га лістапада 1925. г.
Менск.

## Чым карыстаўся аўтар.


1) **Гарэцкі Максім**—Невялічкі беларуска-маскоўскі слоў-нік. Рэдакцыя Янкі Станкеўчыка. Выданьне II. Вільня. 1921 in. 32°. 264 стар.

2) **М. Байкоў і М. Гарэцкі**—Практычны Расійска-Бела-рускі Слоўнік. Выданьне „Белтрэстдрук". Менск. 1924 255 стар.

3) **В. Ластоўскі**—Падручны Расійска-Крыўскі (Беларускі Слоўнік.—Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве Коўна. 1924. Друкарня А. Бака, Коўна, вул. Ожэшкі, 5.

4) **Язэп Лёсік**—Пачатковая граматыка. Выданьне дру гое Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі. Менск. 1925.

5) **Язэп Лёсік**—Беларуская мова. Правапіс. Беларуска Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства „Савецкая Беларусь" Менск. 1924.

6) **Б. Тарашкевіч**—Беларуская граматыка для школ Выданьне другое. Вільня. 1919. Друкарня „Віленскага Ві давецтва".

7) **Янка Станкевіч**—Беларуская правапісь з практ каваньнямі. Кніжка I. Друкарня „Віленскага Выдавецтв Б. Клецкіна. Вільня, М.-Сьцяпанаўская, 23. 1921.

8) Практыка Савецкіх установ у Беларускай перапісц

9) Слоўнік праўнае тэрмінолёгічнае Камісіі Інстыту Беларускае Культуры.


---

## Альфабэтны сьпіс узораў офіцыяльных папер.

---

**Дрычкаўскаму Сельсавету.**

Калі ў межах Вашага Сельсавету жыве грамадзянін Сяргей Казяўка, нараджэньня 1903 году, дык просьба перадаць яму пад расьпіску далучанае да гэтага пасьведчаньне за № 76.

*Старшыня Сельсавету*

*Сэкрэтар*

---

**У Новасёлкаўскі Сельсавет.**

Управа Пухавіцкае Раённае Міліцыі прапануе Вам выслаць на 25 кастрычніка 1926 г., на 10 гадзіну раніцы, у памяшканьне вышэйпамянёнае Ўправы вось якіх грамадзян з вёскі Новасёлкі: 1) Сапрона Корсака, 2) Грыпіну Ляўшчанку 3) Тодара Пракапеню, 4) Ганну Тарасік.

Прыбыцьцё іх у Міліцыю абавязкова.

*Часова спаўняючы абавязкі*

*Старшага Міліцыянэра*

---

**У Пухавіцкую Ўправу Раённае Міліцыі.**

Паводле прапановы Вашае ад 10 верасьня 1925 г., за № 144, накіроўваюцца да Вас грамадзяне вёскі Новасёлкі: Сапрон *Корсак* і Тодар *Пракапеня*. Што-ж датычыць да паказаных у Вашым адносьніку грамадзян: Грыпіны *Ляўшчанкі* і Ганны *Тарасік*, дык першая з іх, як мы даведаліся, жыве ў межах Дрычынскага Сельсавету, а Ганна Тарасік раней жыла ў вёсцы Новасёлкі, але ўжо тры тыдні, як яна выехала нямаведама куды.

*Старшыня Сельсавету*

*Сэкрэтар*

**Народнаму Судзьдзі 3 вуч.**

На Ваш адносьнік ад 27 кастрычніка 1925 году, за № 452, Галоўная Ўправа Міліцыі мае Вас паведаміць, што грамадзянін Іван Пракопчык быў заарыштаваны па загаду Старшага Міліцыянэра Койданаўскае Раённае Міліцыі 2 жніўня 1925 г.

---

**Члену Дрычкаўскага Сельсавету Менскае Акругі Сымону Жыжцы.**

Прапануецца Вам безадкладна даставіць у Сельсавет выпіску з пратаколу па справе аб утварэньні апекі над *недалетнім* Аўгенам Петрашэўскім і адначасна даць паясьненьні, па якіх прычынах Вы дагэтуль ня выканалі прапановы Сельсавету ад 14 ліпня 1925 г., за № 749.

*Старшыня Сельсавету*

*Сэкрэтар*

---

Б. С. С. Р.
**Народны Камісарыят Юстыцыі**
**НАРОДНЫ СУД**
**II часьці**
**МЕНСКАЕ АКРУГІ**
18 кастрычніка 1925 г.
№ 1155.
г. Менск

**У Новасёлкаўскі Сельсавет Пухавіцкага раёну.**

Далучаныя да гэтага 26 позваў (у двох паасобніках кожная) просьба перадаць паказаным у позвах грамадзянам, пад іх расьпіскі на другіх паасобніках, якія належыць выслаць у Суд на дзень разгляду справы, зьвярнуўшы разам з тым і гэты адносьнік.

*Сэкрэтар Народнага Суду*



**Даручэньне на атрыманьне грошай.**

Менск, 1925 году, мая месяца ў 15 дзень. Я, ніжэйпадпісаны Зьмітра Кандратовіч, даручаю грамадзянцы Вользе Нарбут атрымаць належны мне заработак за май месяц бягучага году па пасадзе настаўніка Менскае 12 сямігадовае працоўнае школы.

*(Подпіс)*

---

**ЗАГАД №**

§ 1.

Выставіць на ўвагу дзелаводу Станкевічу Івану несваячаснае выкананьне ім загаду аб тэрміновай апрацоўцы статыстычных вестак.

§ 2.

Машыністцы Алёне Саўчык абвяшчаецца нагонка за нядбалыя адносіны да сваіх абавязкаў.

---

**ЗАГАД №**
**Народнага Камісарыяту Ўнутранага Гандлю БССР.**

Менск, 3 ліпня 1925 г.

**Па кіраўніцтву спраў.**

§ 1.

Бурвель Антаніна прызначаецца машыністкаю з 1 ліпня 1925 г.

§ 2.

Часова спаўняючы абавязкі юрысконсульта Плашчынскі Юры зацьвярджаецца з 1 ліпня 1925 г. на пасадзе, якую ён займае з паказанае даты.

---

**Па Статыстычна-Экономічнаму Аддзелу.**

§ 1.

Статыстык Сапега Пахом прызначаецца памочнікам Загадчыка Аддзелу, з 15 чэрвеня 1925 г. і з тае самае даты звальняецца ад пасады статыстыка.

§ 2.

Статыстык Воронка Міхал звальняецца з 1 жніўня 1925 г., паводле заявы, ад пасады.

## ЗАГАД №

### Народнага Камісарыяту Асьветы БССР.

Менск, 15 верасьня 1925 г.

**Па Галоўсоцвыху.**

§ 1.

Старшы школьны Інспэктар Пуроўскі Сьцяпан камандыруецца ў Бабруйскую й Слуцкую акругі для абрэвізаваньня сямігадовых працоўных школ.

Пуроўскаму выдаць на падарожу і сутачных за 10 дзён.

§ 2.

На час камандыроўкі Пуроўскага абавязкі школьнага Інспэктара ўскладаюцца на Дашкольнага Інспэктара Клюдку Антона.

§ 3.

Школьны Інспэктар Народнае Асьветы Слуцкае акругі Мароз Язэп пераводзіцца на тую самую пасаду ў Полацкую акругу з 16-га студзеня 1925 г.

---

### Загад № аб захварэўшым працаўніку.

Дзелавода Цярэшку Мітрафана лічыць у адпачынку з 25 кастрычніка 1925 г. з прычыны яго хваробы; выплату яму заработку за час адпачынку аднесьці на Забясьпечаную Касу.

---

### Запросіны.

Мясцовы Камітэт служачых Народнага Камісарыяту Ўнутраных Спраў БССР запрашае Вас на ўрачысты агульны сход з прычыны восьмых угодкаў Кастрычнікавае Рэволюцыі, які адбудзецца 7 лістапада а 8 гадзіне ўвечары, у памяшканьні Камісарыяту (Пляц Волі, 23/2).



**Адзел запісу актаў грамадзянскага стану**

пры.............................................................192 г.

### Запіс аб нараджэньні.

| №№ па парадку | | Агульны | Мужч. роду | Жаноч. роду |
|---|---|---|---|---|
| 1 | № запісу. | | | |
| 2 | Дата й месяц, калі зроблены запіс. | | | |
| 3 | Род дзіцяці (хлапец ці дзяўчына). | | | |
| 4 | Прозьвішча і імя дзіцяці | | | |
| 5 | Дата, месяц і год нараджэньня. | | | |
| 6 | Месца нараджэньня (акруга, раён, горад, вёска). | | | |
| | | аб бацьку | весткі | аб матцы |
| 7 | Прозьвішча і імя. | | | |
| 8 | Век (дата, месяц і год нараджэньня). | | | |
| 9 | Сталае месца быцьця (паказаць дакладны адрас). | | | |
| 10 | Чым займаюцца. | | | |
| | | У ліку нарадзіўш. | | У ліку жывых |
| 11 | Каторае дзіця ў бацькоў. | | | |
| 12 | Хто паведаміў аб нараджэньні дзіцяці (азначыць асобу й дакладны адрас). | | | |
| 13 | Асобныя ўвагі. | | | |
| 14 | Подпісы асоб, якія паведамілі аб нараджэн. | | | |
| 15 | Подпісы служачых асоб, якія ўлажылі запіс. | | | |

Аддзел запісу актаў грамадзянскага стану
пры .................................................... 192 г.

## Заявы аб пахаджэньні пачатых бяз шлюбу дзяцей.

| №№ па парадку | | |
|---|---|---|
| 1 | № Запісу. | |
| 2 | Дата і месяц заявы. | |
| 3 | Прозьвішча і імя маткі. | |
| 4 | Век (дата, месяц і год нараджэньня) маткі. | |
| 5 | Сталае месца быцьця маткі (паказаць дакладны адрас). | |
| 6 | Чым займаецца матка. | |
| 7 | Калі пачала. | |
| 8 | Прозьвішча і імя бацькі. | |
| 9 | Век бацькі (дата, месяц і год нараджэньня). | |
| 10 | Сталае месца быцьця бацькі (паказаць дакладны адрас). | |
| 11 | Чым займаецца бацька. | |
| 12 | Асобныя ўвагі. | |
| 13 | Подпіс асобы, якая зрабіла заяву. | |
| 14 | Подпісы служачых асоб, якія ўлажылі запіс. | |



Аддзел запісу актаў грамадзянскага стану
пры .................................................... 192 г.

## Запіс аб шлюбе.

| №№ па парадку | | аб маладым | весткі аб маладой |
|---|---|---|---|
| 1 | № запісу. | | |
| 2 | Дата й месяц, калі шлюб адбыўся. | | |
| 3 | Прозьвішча і імя. | | |
| 4 | Век (дата, месяц і год нараджэньня). | | |
| 5 | Сталае месца быцьця (паказаць дакладны адрас). | | |
| 6 | Чым займаюцца. | | |
| 7 | Сямейны стан. | нежанаты, удавец, разводнік | дзяўчына, удава, разводніца |
| 8 | Каторы раз бярэ шлюб. | | |
| 9 | Якое прозьвішча хочуць мець маладыя. | | |
| 10 | Асобныя ўвагі. | | |
| 11 | Подпісы маладых з уласнаручнай заявай, што яны бяруць шлюб па добрай волі. | | |
| 12 | Подпісы служачых асоб, якія ўлажылі запіс. | | |

**Аддзел запісу актаў грамадзянскага стану**

пры _________________________________ 192 г.

## Запіс аб разводзе.

| №№ па парадку | | | |
|---|---|---|---|
| 1 | № запісу. | | |
| 2 | Дата й калі зроблены запіс. | | |
| 3 | На якой падставе зроблены запіс: з прычыны ўзаемнае просьбы сужаных ці паводле пастановы суду (паказаць, якога суду, дату, месяц, год і № пастановы). | | |
| | | аб мужыку | весткі аб жонцы |
| 4 | Прозьвішча і імя. | | |
| 5 | Век (дата, месяц і год нараджэньня). | | |
| 6 | Сталае месца быцьця (паказаць дакладны адрас). | | |
| 7 | Чым займаюцца. | | |
| 8 | Месца, дзе адбыўся шлюб, які мае быць скасаваным. | | |
| 9 | Колькі ўсяго дзяцей нарадзілася ад шлюбу, які мае быць скасаваным, і колькі іх жыве. | | |
| 10 | Пералічыць, хто з дзяцей будзе жыць пры матцы, а хто пры бацьку; адзначыць, са згоды бацькоў, ці паводле пастановы суду (паказаць, якога суду, дату, месяц, год і № пастановы). | | |
| 11 | Якія прозьвішчы хочуць мець разводнікі. | | |
| 12 | Асобныя ўвагі. | | |
| 13 | Подпісы разводнікаў. | | |
| 14 | Подпісы служачых асоб, якія ўлажылі запіс. | | |



**Аддзел запісу актаў грамадзянскага стану**

пры ........................................................ 192 г.

## Запіс аб сьмерці.

| №№ па парадку | | Агульны | Мужчынскага роду | Жаночага роду |
|---|---|---|---|---|
| 1 | № запісу. | | | |
| 2 | Дата й месяц, калі зроблены запіс. | | | |
| 3 | Род памершага. | | | |
| 4 | Прозьвішча і імя памершага. | | | |
| 5 | Век (дата, месяц і год нараджэньня). | | | |
| 6 | Дата, месяц і год сьмерці. | | | |
| 7 | Месца сьмерці (акруга, раён, горад, вёска). | | | |
| 8 | Сталае месца быцьця памершага (паказаць дакладны адрас). | | | |
| 9 | Чым займаўся памершы. | | | |
| | | | Мужчынскага роду: нежанаты, удавец, разводнік. | Жаночага роду: дзяўчына, удава, разводніца. |
| 10 | Сямейны стан памершага. | | | |
| 11 | Прычына сьмерці. | | | |
| 12 | Прозьвішча, імя й дакладны адрас лекара, які выдаў пасьведчаньне аб сьмерці, а таксама № пасьведчаньня. | | | |
| 13 | Хто паведаміў аб сьмерці (паказаць асобу й дакладны адрас). | | | |
| 14 | Дзе пахаваны. | | | |
| 15 | Асобныя ўвагі. | | | |
| 16 | Подпіс асобы, якая паведаміла аб сьмерці. | | | |
| 17 | Подпісы служачых асоб, якія ўлажылі запіс. | | | |

У Беларускую Кантору Дзяржаўнага Банку

Ад грамадзян ____________

____________

Наса мае атрымаць

№............

Адрас: ____________

## ЗАЯВА.

Далучаючы да гэтага ____________
(словамі)
прашу перавесьці паказаную суму почтай, утрымаўшы ........
Каму ____________
Куды (назова краіны) ____________
Дакладны адрас таго, каму грошы высылаюцца ............

Пры гэтым даю свой подпіс, як доказ таго, што паказаная вышэй сума не перавышае прынятай нормы 200 руб. у золаце, адзін раз у месяц на адну асобу.

„......“ ____________ 192.... г.

*Подпіс*

---

## РАЗРАХУНАК.

Атрымана ........ паводле курсу ........ чырвонц ........
Утрымана:
Н/камісіі ____________ чырвонц ........

Усяго ўтрымана ____________ чырвонц ........
Да пераводу ........ паводле курсу ........ чырвонц ........
Праз які Банк пераводзіцца ____________





У Галоўную Управу Дзяржаўнага Забясьпечаньня

Гр. ____________

____________

## ЗАЯВА.

Гэтым заяўля......, што за шкоду, якую зрабіў мне пажар, што здарыўся „......“ ____________ 192.... г. ў належачай ____________ маемасьці, якая знаходзіцца ____________ ____________ і забясьпечана ў Галоўнай Управе Дзяржаўнага Забясьпечаньня па квітку №........, згодн........ атрымаць, каб цалкам і канчаткова здаволіцца ____________ ____________ ........руб. ........кап. Як атрымаю гэтую суму, дык ніякае прэтэнзіі да Галоўнай Управы Дзяржаўнага Забясьпечаньня й да яе мясцовых установ з прычыны адбыўшагася пажару мець ня буду ____________ г. ____________

„......“ ____________ 192.... г.

*Подпіс забясьпечніка
ці яго ўпаўнаважанага*

---

## Заява аб хваробе.

Паведамляю, што, захварэўшы 25-га кастрычніка на тыфус, зьявіцца да выкананьня службовых абавязкаў не магу. Як доказ сваёй хваробы, далучаю да гэтага пасьведчаньне ад лекара №№

*Подпіс*

Акруговы Аддзел Грашовых Спраў
Раённы Выканаўчы Камітэт

## НЕДАБОРНАЯ КАРТКА №........

Прозьвішча і імя недаборніка........

Месца быцьця (дакладны адрас)........

Дзе знаходзіцца маемасьць ці прадпрыемства........

........

| №№ абкладальных лістоў | Назовы падаткаў | Колькі часу лічыцца недабор | СУМА | | | Выплачана бяз прымусу | | | | Унесена ў касу | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Недабору з абкладу | Пені | Штрафу | Час выплаты | Сума штрафу | Сума пені | Сума недабору з абкл. | Дата й № квітка | Сума (агульная) |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | Патэнтовы збор . . | | | | | | | | | | |
| | Зраўнальны | | | | | | | | | | |
| | Асноўны падатак ад прыбытку | | | | | | | | | | |
| | Асноўны з агульнае сумы прыбыткаў . | | | | | | | | | | |
| | Рэнта . . | | | | | | | | | | |
| | Аднаразовы | | | | | | | | | | |
| | Падатак ад будынкаў | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | |
| | | | | | | | | | | | |
| | Усяго . . | | | | | | | | | | |

**УВАГА:**

*Подпіс*



## ПРАТАКОЛ.

192......году, месяца..........ў..........дзень. Я, Фінансавы агент

Акруговага Аддзелу Грашовых Спраў,
........Раённага Выканаўчага Камітэту

выконваючы даручэньне па недаборнай картцы №........, паказанай на адвароце гэтага пратаколу, зьявіўся гэтай даты на месца, дзе жыве недаборнік гр........ і, пераканаўшыся, што памянёны грамадзянін ня выплаціў належны з яго недабор, распачаў, на падставе палажэньня аб прымусовым спагнаньні падаткаў і збораў, попіс маемасьці недаборніка дзеля пакрыцьця недабору, які за ім лічыцца. Пры гэтым выявілася наступнае:

| Парадкавы № | Пералік маемасьці, якая падлягае попісу | Колькасьць | Сума, у якую ацэнена маемасьць | Увага (адзначыць, якая маемасьць не ўвашла ў попіс) |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

Попіс маемасьці рабіў і папісаныя рэчы ацаніў........

Панятыя 1)........2)........

Папісаныя рэчы на перахоў атрымаў, якую я нясу адказнасьць за недастачу рэчаў і за нявыплату належнага з мяне недабору, мне вытлумачылі, у доказ чаго даю свой подпіс: *Недаборнік*

........

### Прымусовае спагнаньне.

| Якія захады прымусу зроблены дзеля пакрыцьця недабору (п. п. „а" і „в" арт. 8.). | Дата, калі ўлажылі попіс і ацанілі маёмасьць | Час і № падачы ў Акруговы Аддз. Грашовых Спраў | Час продажу з таргоў | Атрыманая на таргох сума | Залічана | | | | Зьвернута платніку | Унесена ў касу | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | На выдаткі па пераху й продажу маемасьці | На выплату штрафу | На выплату пені | На выплату недабору з абкладу | | Калі ўнесена і № квітка | СУМА |
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | | | | | | | | | | | |

*Подпіс*

**Паведамленьне аб пагашэньні доўгу.**

Праўленьне Беларускага Банку Комунальнае Гаспадаркі й Кватэрнага Будаўніцтва прыпамінае Вам аб тым, што 13 сьнежня 1925 году зышоў тэрмін выплаты з пазыкі ў суме сту сараку рублёў, якую Вы атрымалі на рамонт і якую Вам належала зьвярнуць дзеля пагашэньня доўгу—

Руб.............

Паведамляючы Вас аб гэтым, просім паклапаціцца аб звароце памянёнае сумы ў працягу.............дзён па атрыманьні гэтага паведамленьня.

Пры гэтым зварочваем Вашую ўвагу, што, калі Вы ня зробіце ў тэрмін выплаты, дык будзе налічана з таго дня, як зышоў тэрмін, прадугледжаная правіламі Банку пеня.

---

**Паведамленьне аб зыходзе тэрміну страхаваньня маемасьці.**

24 жніўня 1925 г. зыходзіць тэрмін страхаваньня Вашае маемасьці. Паведамляючы аб гэтым, просім аднавіць страхаваньне і квіток са зробленым на ім напісам аб закладзе ў Беларускім Комунальным Банку падаць не пазьней, як 1 верасьня б/г.

У праціўным выпадку мы будзем прымушаны распачаць спагнаньне да тэрміну.

---

**Беларуская Социялістычная Савецкая Рэспубліка**

Народны Камісарыят.............

**Пасьведчаньне.**

Паказчы......... гэтага.............
ёсьць працаўні......... Народнага Камісарыяту ............ на пасадзе.............
што подпісамі ды прыкладзенай пячаткай сьведчыцца.

Мае сілу да............. 192.......г.

Менск,............. 192.......г.

*Народны Камісар.............БССР.*

*Кіраўнік спраў*

*Дзелавод*

Чыннасьць гэтага пасьведчаньня №......... працягнута да............. 192.......г.

*Кіраўнік спраў*

*Дзелавод*



**Пасьведчаньне.**

Паказчык гэтага, Інструктар Польскага Бюро Народнага Камісарыяту Асьветы Ўладыслаў Ігнатовіч камандыруецца ў Віцебскую Акругу на абрэвізаваньне падпарадкаваных Бюро Школьных устаноў.

Пасьведчаньне мае сілу да 10 сьнежня 1925 г.

*Подпіс*

---

**Пасьведчаньне аб камандыраваньні на Ўсесаюзны Зьезд.**

| ПАСЬВЕДЧАНЬНЕ. | УДОСТОВЕРЕНИЕ. |
|---|---|
| Паказчык гэтага, Інспэктар............. Касьцюк Пётра камандыруецца ў Маскву на Зьезд.............з рашучым голасам, што подпісамі ды прыкладзенай пячаткай сьведчыцца. Мае сілу „.......“ да лістапада 1925 г. | Пред'явитель сего, Инспектор ............. Костюк Петр командируется в Москву на С'езд.............с решающим голосом, что подписями и приложением печати удостоверяется. Действит. до „.......“ ноября 1925 года. |

*Намесьнік Народнага Камісара*
*Заместитель Народного Комиссара*

*Кіраўнік Спраў*
*Управляющий делами*

---

**Пасьведчаньне ўмовы ці даручэньня.**

Тысяча дзевяцьсот дваццаць пятага году, месяца лістапада ў 28 дзень, Менская Дзяржаўная Нотарыяльная Кантора сьведчыць, што гэтая ўмова пададзена ў Кантору гр. Даротай Грыневічанкай, якая жыве ў Менску, па Пролетарскай вул., у доме № 10, і што гэтая ўмова ўласнаручна ёю, Грыневічанкаю, падпісана.

Грыневічанка дзеля пасьведчаньня свае асобы паказала пашпарт за № 946. Зборaў спагнана: гэрбовага.........р.........к., нотарыяльнага і дадатковага нотарыяльн. .........р.........к.

Запісана ў рэестры пад №.............

### Пасьведчаньне подпісу.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць шостага году, месяца ліпня ў 4 дзень, Менская Дзяржаўная Нотарыяльная Кантора сьведчыць, што гр. Васіль Кавалёнак зрабіў уласнаручна на гэтым дакуманце подпіс з прычыны яго асабістае просьбы, гр. Івана Плыгаўкі,—які жыве ў вёсцы Апчак, Менскае акругі,—з прычыны няпісьменнасьці апошняга.

Гр. Плыгаўка, дзеля пасьведчаньня свае асобы, паказаў пашпарт за № 1250. Збораў спагнана: гэрбовага............................ ............................руб. ............кап., нотарыяльнага і дадатковага нотарыяльнага..................................р. ............кап.

Запісана ў рэестры пад №............................

---

### Пасьведчаньне копіі.

Тысяча дзевяцьсот дваццаць шостага году, месяца студзеня ў 21 дзень, Менская Дзяржаўная Нотарыяльная Кантора сьведчыць, што копія гэтая з орыгіналам згодна, які падала гр. Эстар Кантаровіч, што жыве ў Менску, на Рэволюцыйнай вул., у доме № 23.

Орыгінал аплачаны гэрбовым зборам на суму......................р. ............кап.

Збораў спагнана: гэрбовага....................руб..............кап., нотарыяльнага і дадатковага нотарыяльнага....................руб. ............к.

Запісана ў рэестры пад №............................

---

### П О З В А.

Народны Камісарыят Работніцка-Сялянскае Інспэкцыі просіць Вас прыйсьці на пасяджэньне Колегії, якое адбудзецца ў суботу, 17 кастрычніка 1925 году, а 3 гадзіне ўдзень, у залі пасяджэньняў.

Прысутнасьць абавязкова.

*Загадчык Сэкрэтарыяту*



### ПРОСЬБА АБ ДАЗВОЛЕ НАСІЦЬ ЗБРОЮ.

**Начальніку Галоўнае Міліцыі БССР.**

Я працую ў краме Цэнтральнага Рабочага Коопэратыву. Па службовых справах мне блізка штодня даводзіцца варочацца да хаты, часамі нават позна ўвечары, маючы пры сабе значную суму грошай.

Каб забясьпечыць сваё жыцьцё і даручаныя мне грошы ад нападу, мне патрэбна мець пры сабе рэвальвэр.

З прычыны гэтага прашу выдаць мне дазвол на права насіць з сабою рэвальвэр, выдаўшы ў тым адпаведнае пасьведчаньне.

*Подпіс*

*14 лістапада 1925 г.*

Адрас мой:

---

### Расьпіска ў атрыманьні грошай.

Менск, 1925 году, красавіка месяца ў 18 дзень. Я, ніжэйпадпісаны, Францішак Якубоўскі даю гэтую расьпіску Беларускаму Дзяржаўнаму Выдавецтву, як доказ таго, што я атрымаў ад яго 245 рублёў гонарару, які належаў мне, згодна з умоваю № 17, за зробленыя пераклады.

*Подпіс*

---

*Да вых. №.............................* *192......г.*

### ГАЛОЎНАЯ ЎПРАВА

**Дзяржаўнага Забясьпечаньня**

**Расьпіска**

ў атрыманьні адшкадаваньня за шкоду ад пажару.

............, ніжэйпадпісан............, выда............гэтую расьпіску ў тым, што атрымаў............ад.......................................................Дзяржаўнага

Забясьпечаньня..................................................................................

..................................................................................................

..................................................................руб.............кап.,
як поўнае і канчальнае адшкадаваньне за шкоду, якую зрабіў мне пажар, што здарыўся „...........“.......................................192 г.
у належнай ...........................................................................................
.............................маемасьці, забясьпечанай па квіту №...............................,
і ніякае прэтэнзіі да Галоўнае Ўправы Дзяржаўнага Забясьпечаньня і да яе мясцовых установ з прычыны адбыўшагася пажару ня ма.......... і мець ня буд........... Г.......................................
„...........“......................................................192.......г.

Руб.

## Хадайніцтва аб атрыманьні пасады.

У Народны Камісарыят Унутранага Гандлю БССР

Прузыны Камар, якая пражывае па Канюшанай вуліцы, д. № 5,

### ПРОСЬБА.

Прашу прызначыць мяне на вольную пасаду машыністкі. Да гэтага дадаю, што я скончыла ў 1923 г. Настаўніцкія Курсы Беларусазнаўства; маю практыку пісаньня на машынцы два гады. Зьяўляюся членам профэсыянальнага Саюзу Савецкіх працаўнікоў (членскі білет № 237).

Апошнія часы служыла машыністкаю ў б. Беларускім Дзяржаўным Інстытуце Сельскае Гаспадаркі, дзе прымушана была пакінуць працу з прычыны таго, што памянёны Інстытут зьліквідаваўся.

*П. Камар.*

Менск,
16 кастрычніка 1925.



## Хадайніцтва аб прыйме ў навучальную ўстанову.

У Прыймовую Камісію пры Менскім Беларускім, імя Ўсевалада Ігнатоўскага, Пэдагогічным Тэхнікуме.

Лявона Перавалкі

### ЗАЯВА.

Далучаючы да гэтага:

1) мэтрычны выпіс за № 174 аб маім нараджэньні;

2) справку за № 86 аб маіх адносінах да вайсковае службы;

3) пасьведчаньне за № 133 аб тым, што я скончыў Бярэзінскую, Барысаўскае акругі, сямігадовую працоўную школу;

4) камандыроўку, выданую мне 9 ліпня 1924 г., за № 1844 Бярэзінскім Выканаўчым Камітэтам;

5) пасьведчаньне за № 19 ад лекара аб стане майго здароўя; і

6) анкету,—

прашу залічыць мяне студэнтам ў паказаны вышэй Тэхнікум.

*Л. Перавалка.*

в. Альхоўка, Барысаўскае акругі.
12 ліпня 1924.

## У Менскую Акруговую Забясьпечную Касу

Настаўніка Дукорскае Сямігадовае Працоўнае Школы Менскае Акругі, Міколы Пісарчыка

### ПРОСЬБА.

Па сканчэньні Нясьвіскае Настаўніцкае Сэмінарыі, я быў прызначаны 1 жніўня 1900 г. настаўнікам у Зазерскую прыходзкую школу, (б. Пярэжарскае воласьці, Чэрвеньскага павету), дзе працаваў да 10 кастрычніка 1908 г.; з гэтага часу да 15 лютага 1912 г. працаваў, паводле прыватнай умовы з жыхарствам—на іх сродкі, у Голацкай пачатковай школе,

б. Дукорскае воласьці, Чэрвеньскага павету; 25 лютага 1912 г. я быў прызначаны ў Дукорскую царкоўна-прыходзкую школу, у якой працаваў да 20 студзеня 1918 г., калі быў узяты на вайсковую службу ў 5 стралковы полк звычайным чырвонаармейцам. Па звальненьні з вайсковай службы 25 кастрычніка 1920 г., я тае самае даты атрымаў пасаду настаўніка Дукорскае сямігадовае працоўнае школы, у якой, без усялякіх перарываў, працую й да гэтага часу.

На падставе вышэйпаказанага і грунтуючыся на пастанове Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту ды Савету Народных Камісараў СССР ад 15 студзеня 1925 г. аб пэнсіённым забясьпечаньні настаўнікаў школ 1-е ступені сельскіх і гарадзкіх і іншых працаўнікоў асьветы ў вёсцы, а таксама грунтуючыся на наказе Народных Камісараў—Асьветы, Працы й Фінансаў БССР, ад 29 красавіка 1925 г. па ажыцьцяўленьню гэтае пастановы, прашу Акруговую Забясьпечную Касу аб прызначэньні мне, за выслугу гадоў, пэнсіі—240 р. у год.

У пацьверджаньне свайго права на пэнсію далучаю да гэтага пасьведчаньне Аддзелу Народнае Асьветы, Менскага Акруговага Выканаўчага Камітэту ад 1 лістапада 1925 г., за № 2475.

Настаўнік *М. Пісарчык.*

М. Дукора, Сьмілавіцкага раёну,
Менскае акругі.
2 лістапада 1925.

---

## У Школьны Савет Сьмілавіцкае Сямігадовае Працоўнае Школы, Менскае Акругі

Грамадзяніна вёскі Дрычкова, Сьмілавіцкага раёну, Міколы Прыстрома

### ПРОСЬБА.

У 5-й групе Сьмілавіцкае сямігадовае працоўнае школы вучыцца мой сын Астап, за навучаньне якога ў 1925-26 навучальным годзе я павінен заплаціць 50 рублёў, бо належу



да тэй катэгорыі працоўных сялян, якія абкладзены сельска-гаспадарчым падаткам звыш 150 рублёў.

Стан мой у сучасны момант вельмі цяжкі затым, што пажарам, які здарыўся 25 верасьня г. г. ў нашай вёсцы, зьнішчана ўся мая гаспадарка—хата, гумно й жывёла, і я ня маю ніякіх сродкаў нават на жыцьцё, ня кажучы ўжо аб іншых патрэбах.

З гэтае прычыны прашу звольніць майго сына Астапа ад платы за навучаньне ў 1925-26 навучальным годзе.

Да гэтага далучаю пасьведчаньне Дрычкоўскага Сельскага Савету аб зьнішчэньні пажарам мае гаспадаркі й аб маім матар'яльным стане.

*Мікола Прыстром.*

5 кастрычніка 1925.

---

## У Школьны Савет Сьмілавіцкае Сямігадовае Працоўнае Школы, Менскае Акругі

Селяніна вёскі Карзуны, Сьмілавіцкага раёну, Алеся Корзуна

### ПРОСЬБА.

Прашу зволіць ад платы за навучаньне ў 1925-26 навучальным годзе дачку маю Аўдоцьцю, якая вучыцца ў 6-й групе Сьмілавіцкае сямігодкі.

Пры гэтым паведамляю, што я—працоўны селянін, плачу сельска-гаспадарчы падатак па акладу гэтага году ў памеры 26 р. 40 к., у пасьведчаньне чаго далучаю да гэтага копію акладнога ліста за № 97, засьведчаную Карзуноўскім Сельскім Саветам.

Алесь Корзун, а з прычыны мае няпісьменнасьці,
па маёй асабістай просьбе, падпісаўся..................

2 кастрычніка 1925 году

# ВЫРАЗЫ,

## якія ўжываюцца ў афіцыяльнай перапісцы.

### А.

| | |
|---|---|
| абсолютно все | усё чыста |
| авансовые суммы в счет заработной платы | авансавыя сумы ў лік заработку |
| авторское право | аўтарскае права |
| административно-хозяйственные расходы | адміністрацыйна-гаспадарчыя выдаткі |
| а именно | а паіменна |
| активный профработник | актыўны профэсыянальны працаўнік |
| актовая бумага | актавая папера |
| акционерное товарищество | акцыйнае таварыства, паявое таварыства |
| анонимное общество | анонімнае таварыства |
| арестный дом | арыштны дом |

### Б.

| | |
|---|---|
| банк закрыт | банк зачынены |
| банк открыт (с 10 час. утра до 2 ч. дня) | банк адчынены (з 10-ае гадз. раніцы да 2 гадз. удзень) |
| банкирская контора | банкірская кантора |
| без всякого повода | бяз ніякае прычыны |
| без малейшего отлагательства | зусім безадкладна |
| без промедления (немедленно) | безадкладна |
| бессознательное состояние | няпрытомнасьць |
| бесчисленное множество | безьліч |
| благодарить кого | дзякаваць каму |
| благодаря тому | дзякуючы таму |
| благоприятные обстоятельства | спагадныя акалічнасьці |
| болеть чем | хварэць на што |
| большею частью | найбольш |
| брать за образец | узяць за ўзор |
| брачный договор | шлюбная ўмова |
| бросается в глаза | кідаецца ў вочы |
| брюшной тиф | брушны тыфус |
| будучи вынужденным | будучы прымушаным |
| будучи лишенным возможности | будучы пазбаўленым магчымасьці |



| | |
|---|---|
| бумажные деньги | папяровыя грошы |
| бывший в употреблении | ужываны |
| быть в трудном положении | быць ў цяжкім стане |
| быть опекуном | апекавацца (над кім) |
| быть расположенным | спагадаць |
| быть свидетелем | быць за сьведку |
| быть склонным (к чему) | мець здатнасьць (да чаго) |
| бюджет Союза | каштарыс Саюзу |
| бюро научной организации труда (НОТ) | бюро навуковае організацыі працы (НОП) |

### В.

| | |
|---|---|
| вакантное наследство | вольная спадчына |
| в большинстве случаев | у большасьці выпадкаў |
| в виду вышеизложенного | дзеля вышэйапісанага |
| в виду того, что... | дзеля таго, што... |
| ввод во владение | перадача на ўладаньне |
| в дальнейшем | на будучыну |
| в два (2) часа дня | а другой гадзіне ўдзень |
| в действительности | сапраўды |
| в десять (10) часов утра | а дзесятай гадзіне раніцы |
| в доказательство того, что... | як доказ таго, што... |
| верительная грамота | даручная грамата |
| в дополнение | у дадатак |
| в зависимости от местных условий | у залежнасьці ад мясцовых умоў |
| взимание взносов | спагнаньне складак |
| в значительной степени | у значнай меры |
| вид на жительство | від на пражываньне |
| видом на жительство служить не может | ня мае сілы пашпарту |
| в известной степени | да пэўнай ступені |
| в известных случаях | у пэўных выпадках |
| в конце концов | урэшце |
| вменить в обязанность | паставіць за абавязак |
| вне всякого сомнения | без усялякага сумненьня |
| вне очереди | па-за чаргою |
| внеочередное заявление | нечарговая заява |
| в непродолжительном времени | неўзабаве |
| внести в книгу | запісаць у кнігу |
| внести в список | занесьці ў сьпіс |

| | |
|---|---|
| внешкольное образование | пазашкольная асьвета |
| в общих чертах | у агульных рысах |
| во-время | на часе; у пару |
| во всех отношениях | з усіх бакоў |
| во всех случаях | ва ўсіх выпадках |
| во главе | на чале |
| водворить спокойствие | уціхамірыць |
| военное положение | ваенны стан |
| возбудить дело | распачаць справу; падняць справу; узьняць справу |
| возбудить ходатайство | узьняць хадайніцтва; распачаць хадайніцтва |
| возбуждение дела | падняцьце справы |
| возврат ссуд | зварот пазык |
| возвратный тиф | зваротны тыфус |
| возвышение наказания | павышэньне кары |
| воздушный флот | паветраны флёт |
| возложить обязанности | ускласьці абавязкі |
| возникший вопрос | паўстаўшае пытаньне |
| во избежание | дзеля ўхіленьня |
| во изменение | у зьмену |
| воинская повинность | вайсковая павіннасьць |
| войти в соглашение | умовіцца |
| вопросы рабочего права | пытаньні работніцкага права |
| воспитательный дом | выхаваўчы дом |
| восстановить в правах | аднавіць у правох |
| восстановление хозяйства | адбудова гаспадаркі |
| в первый раз | упяршыню |
| в пределах указанной суммы | у межах паказанае сумы |
| впредь до изменения | пакуль ня будзе скасавана |
| впредь до... | аж да... |
| впредь до нового распоряжения | пакуль ня будзе новага загаду |
| в присутствии | у прысутнасьці |
| в продолжение | у працягу |
| в противном случае | у праціўным выпадку |
| в прошлом году | летась |
| временное положение | часовае палажэньне |
| в связи | у зьвязку |
| все были на лицо | усе чыста былі прысутны |



| | |
|---|---|
| в семь часов вечера | а сёмай гадзіне ўвечары |
| в скором времени | неўзабаве; у хуткім часе |
| вследствие предложения | паводле прапановы |
| вследствие ходатайства | з прычыны хадайніцтва |
| в случае чего | у разе чаго |
| в соответствии | у адпаведнасьці |
| в сравнении | у параўнаньні |
| в сторону | убок |
| вступить в брак с кем | пабрацца з кім |
| вступить в должность | прыняць пасаду |
| в счет | у лік; на рахунак |
| в течение года | у працягу году |
| в течение определенного времени | у працягу пэўнага часу |
| вход посторонним лицам строго воспрещается | уваход староньнім асобам сувора забараняецца |
| входящий журнал | журнал прынятых папер |
| в целях | у мэтах |
| вчинять иск | распачынаць спозыск у судзе |
| вызовное производство | пазыўнае справядзеньне |
| выйти из печати | выходзіць друкам |
| выразить благодарность | скласьці падзяку |
| выразить порицание | выказаць ганьбу |
| высшая союзная организация | вышэйшая саюзная арганізацыя |
| высшее учебное заведение | вышэйшая навучальная установа, вышэйшая школа |
| вышиною | увышкі |
| выяснить вопрос | высьветліць пытаньне |
| в этом году | сёлета |
| в этом отношении | з гэтага боку |

## Г.

| | |
|---|---|
| главная книга | галоўная кніга |
| главное управление (учреждение) | галоўная ўправа |
| главный бухгалтер | галоўны бухгальтар |
| годовой отчет | справаздача за год |
| гораздо труднее | куды цяжэй |
| гораздо хуже | куды гарэй |
| гражданский долг | грамадзянскі абавязак |

| | |
|---|---|
| гражданский иск | грамадзянскі іск |
| гражданское судопроизводство | грамадзянскае судаводзтва |

**Д.**

| | |
|---|---|
| да здравствует! | няхай жыве! |
| дарственная запись | даравальны запіс |
| дать об'яснение | даць паясьненьні |
| дать приказ | зрабіць загад |
| дать руководящие указания | даць кіраўнічыя паказаньні |
| дать ход делу | парушыць справу |
| движимое имущество | рухомая маемасьць |
| действительный член Комиссии | праўдзейны член Камісіі |
| действующий на основании хозрасчета | чынны на аснове гаспадарчага разрахунку |
| делегатское собрание | сход дэлегатаў (прадстаўнікоў) |
| делать замечание | рабіць увагу |
| дело в том... | рэч у тым... |
| дело назначено к слушанию | справу прызначылі слухаць |
| дело обыкновенное | звычайная рэч |
| дело спешное | тэрміновая справа |
| денежное взыскание | узыск грошай |
| держать пари | біцца аб заклад |
| для окончательного оформления | дзеля канчатковага афармленьня |
| для основательного ознакомления | дзеля дакладнага азнаямленьня |
| доводить до сведения | даводзіць да ведама; давесьці да ведама |
| довольно часто | даволі часта |
| до востребования | да спыту |
| до всеобщего сведения | да агульнага ведама |
| докладная записка | дакладная запіска |
| дом отдыха | дом адпачынку |
| домашний договор | хатні дагавор |
| досадная опечатка | прыкрая памылка |
| достаточное основание | выстарчальная аснова |
| достойно внимания | варта ўвагі |
| духовное завещание | духоўніца |
| душевная болезнь | душэўная хвароба |

**Е.**

| | |
|---|---|
| естественное право | прыроднае права |



**Ж.**

| | |
|---|---|
| жалобная книга | кніга скаргаў |
| жениться на ком | жаніцца з кім |
| женская уборная | жаночы пакой |
| жестокое обращение | лютае абхаджэньне |
| живая газета | жывая газэта |
| жилищное товарищество | памяшкальнае таварыства |
| жить чем | жыць з чаго |

**З.**

| | |
|---|---|
| заборная книжка | наборная кніжка |
| заведующий клубом | загадчык клюбу |
| заведующий хозяйством | загадчык гаспадаркі |
| заглавный лист | тытульная старонка |
| заимообразные выдачи | пазычковыя выдачы |
| заказное письмо | ліст забясьпечаны, заказны ліст |
| заключительное об'яснение | заключальнае аб'ясьненьне |
| заключить под стражу | узяць пад варту |
| заключить условие | завязаць умову |
| законная оборона | законная абарона |
| залоговое свидетельство | залогавае пасьведчаньне |
| за неимением времени | з прычыны браку часу |
| занести в книгу | запісаць у кнігу |
| заочный приговор | завочны прыгавор |
| запасный фонд | запасны фонд |
| запрещенная статья | забаронены артыкул |
| запрещенная игра | забароненая гра |
| заработная плата | заработак, заработная плата |
| заразная болезнь | пошасная хвароба |
| засвидетельствовать подпись | пасьведчыць подпіс |
| заседание состоялось | пасяджэньне адбылося |
| за сколько времени | за які час |
| за счет | за кошт |
| за счет государственной сметы | за кошт дзяржаўнага каштарысу |
| затребовать об'яснение | запрапанаваць прыслаць паясьненьне |
| заявочные знаки | капцы |
| звонкая монета | звонкая манэта |
| зимние каникулы | зімовы адпачынак |

| | |
|---|---|
| знать наизусть | умець напамяць |
| знать толк в чем | знацца на чым |
| значит | значыцца |
| значительная сумма | значная сума |
| золотая валюта | залатая валюта |

**И.**

| | |
|---|---|
| избавиться от чего | пазбавіцца чаго |
| избрали его председателем | абралі яго за старшыню |
| издательское дело | выдавецкая справа |
| извлечение прибыли | атрыманьне прыбытку |
| изыскать меры | знайсьці спосабы |
| имеется | ёсьць |
| именем Республики | у імя Рэспублікі |
| имея ввиду | маючы на ўвазе |
| имея целью | маючы на мэце |
| индивидуальное взимание | асабовае спагнаньне |
| институт социального перевоспитания | інстытут сацыяльнага перавыхаваньня |
| информационный материал | інфармацыйны матэрыял |
| исключительное положение | выключнае палажэньне |
| исполнительный лист | выканальны ліст |
| исковое прошение | іскавая просьба |
| исполняющий обязанности | спаўняючы абавязкі |
| исправительный дом | дом паправы |
| исследовательский институт | дасьледчы інстытут |
| истек срок | зышоў тэрмін |
| исход дела | вынік справы |
| исходя из сего | выходзячы з гэтага |
| исчерпывающий ответ | вычарпаны адказ |
| исчисление зарплаты | вылічэньне заработку |

**К.**

| | |
|---|---|
| кабальная сделка | кабальная ўгода |
| как например | як прыкладам |
| как нарочно | як на тое |
| канцелярские принадлежности | канцэлярскія прылады |
| как следует | як мае быць |
| касса взаимопомощи | каса ўзаемадапамогі |
| кассовая ведомость | ведамасьць касы |
| кассовая книга | касавая кніга |



| | |
|---|---|
| категории труда | катэгорыі працы |
| каторжные работы | катаржныя работы |
| кино-лента | кіно-йстужка |
| кино-с'емка | кіно-зьнімка |
| к исполнению | да выкананьня |
| классовая борьба | клясавая барацьба |
| к неуклонному исполнению | да няўхільнага выкананьня |
| книга приходов-расходов | кніга прыбыткаў і выдаткаў |
| кодекс законов о труде | кодэкс законаў аб працы |
| коллективная собственность | супольная ўласнасьць |
| коллективный договор (колдоговор) | колектыўная ўмова |
| колебание курса | хістаньне курсу |
| командировать в распоряжение | камандыраваць пад загад |
| коммерческий учет векселя | комэрцыйнае (гандлёвае) адлічэньне з вэксалю |
| комиссия в составе | камісія ў складзе |
| конторская книга | канторская кніга |
| конфискация частной собственности | конфіскацыя прыватнае ўласнасьці |
| кооперативное предприятие | коопэратыўнае прадпрыемства |
| коренной подел | грунтоўны падзел |
| к 1 декабря | на 1-ае сьнежня |
| к 5 февраля | на 5-ае лютага |
| кормовые деньги | харчовыя грошы |
| краеведческое бюро | бюро краязнаўства |
| косвенный налог | пасрэдны падатак |
| красный уголок | чырвоны куток |
| крайняя необходимость | канечная патрэба |
| кредит | крэдыт |
| кредитная операция | крэдытная опэрацыя |
| кризис сбыта | крызіс збыту |
| круговая ответственность | кругавая адказнасьць |
| круговая порука | кругавая парука |
| к руководству | да кіраваньня |
| к сведению | да ведама |
| к сожалению | на жаль |
| к тому же | да таго-ж |
| культура растений и животных | гадоўля расьлін і жывёлы |
| культурный фонд | культурны фонд |

| | |
|---|---|
| купчая крепость | купчая крэпасьць |
| курить воспрещается | курыць забаронена |
| кустарные изделия | саматужныя вырабы |

**Л.**

| | |
|---|---|
| легкая и тяжелая индустрия | лёгкая й цяжкая індустрыя |
| ликвидация неграмотности | ліквідацыя няпісьменнасьці |
| линия родства | лінія сваяцтва |
| лицом к деревне | тварам да вёскі |
| личная обида | асабістая крыўда |
| личное дело | асабовая справа |
| личное задержание | асабістае затрыманьне |
| личное приказание | асабісты загад |
| личный наем | асабістыя наймы |
| личный состав | асабовы склад |
| лишенный возможности | пазбаўлены магчымасьці |
| логическое толкование | лёгічнае тлумачэньне |
| ложная тревога | фальшывая трывога |
| ложное показание | фальшывае паказаньне |
| ломовой извощик | панараднік |
| лучше всего | лепш за ўсё |
| льготный тариф | ільготны тарыф |
| лист окладной | ліст акладны |
| литературная собственность | літаратурная ўласнасьць |
| лицо юридическое | юрыдычная асоба |
| личное обязательство | асабісты абавязак |
| ложные слухи | фальшывыя чуткі |

**М.**

| | |
|---|---|
| меблированная комната | мэбляваны пакой |
| межсоюзный организатор по работе среди женщин | міжсаюзны арганізатар дзеля працы сярод жанчын |
| меня это не касается | мяне гэта не датычыць |
| меры предосторожности | захады засьцярогі |
| механическое взимание | мэханічнае спагнаньне |
| механическое производство | мэханізацыя вытворчасьці |
| мелочная торговля | дробны гандаль |
| мертвый капитал | некарысны капітал |
| мера наказания | мера кары |



| | |
|---|---|
| многим кажется | шмат каму здаецца |
| мужская уборная | мужчынскі пакой |
| мировая сделка | міравая ўгода |
| мировое соглашение | міравая згода |
| мирской капитал | грамадзкі капітал |
| мнимая сделка | несапраўдная ўгода |

**Н.**

| | |
|---|---|
| наблюдаются случаи на будущий год | заўважаны выпадкі на той год |
| на ваше усмотрение | на ваш пагляд |
| наводить справку | даведвацца |
| надзор за исполнением | нагляд за выкананьнем |
| надлежащим порядком | належным чынам |
| назначить кем | прызначыць за каго |
| наименование счетов | назва рахункаў |
| на казенный счет | за кошт скарбу |
| накладные расходы | накладныя выдаткі |
| наладить связь | наладзіць сувязь |
| наличный капитал | гатовы капітал |
| наличные деньги | гатоўка |
| наложенный платеж | накладзеная плата, накладная аплата |
| на основании вышеизложен. | на падставе вышэйапісанага |
| народные массы | народныя гушчы |
| народное питание | народнае жыўленьне |
| нарушение закона | нарушэньне закону |
| нарушить договор | нарушыць умову |
| на случай | у выпадку |
| настольный реестр | настольны запіс |
| натуральный вид зарплаты | натуральная форма заработку |
| натуральная повинность | натуральная павіннасьць |
| научный социализм | навуковы соцыялізм |
| национальный вопрос | нацыянальнае пытаньне |
| национальные меньшинства | нацыянальныя меншасьці |
| начальный курс политэкономии | пачатковы курс палітычнае экономіі |
| небрежное отношение к делу | нядбалыя адносіны да справы |
| небрежное отношение к своим обязанностям | нядбалыя адносіны да сваіх абавязкаў |

| | |
|---|---|
| не в счет | без заліку |
| недвижимое имущество | нярухомая маемасьць |
| недра земли | нетры зямлі |
| не имея времени | ня маючы часу |
| немедленно представьте отчет | безадкладна падайце справаздачу |
| необходимая оборона | патрэбная абарона |
| не подлежит сомнению, что... | бязумоўна, што... |
| неправое владение | бясправаўнае ўладаньне |
| неполнота закона | няпоўнасьць закону |
| несколько времени спустя | некалькі часу пазьней |
| нераздельное имущество | нападзельная маемасьць |
| не следует | не выпадае |
| несение обязанностей | спаўненьне абавязкаў |
| несмотря | ня гледзячы, не зважаючы |
| несмотря на то | ня гледзячы на тое |
| несчастный случай | няшчасны выпадак |
| неуклонно придерживаться | няўхільна прытрымліваццa |
| не успеть | ня ўправіцца |
| нечего рассуждать | няма чаго разважаць |
| ни в каком случае | ні ў якім разе |
| низовой аппарат | нізавы апарат |
| низовая ячейка | нізавая ячэйка |
| нисходящая линия | зыходная лінія |
| никаким образом | ніякім чынам |
| новое обстоятельство | новая акалічнасьць |
| номенклатура расчетов главной книги | номэнклятура рахункаў галоўнае кнігі |
| норма выработки | норма вырабу |
| нормальная цена | нормальная цана |
| нумер (номер) по порядку | нумар чарговы |

**О.**

| | |
|---|---|
| обдуманное намерение | абдуманы намер |
| об исполнении донести | аб выкананьні паведаміць |
| обложить налогом | абкласьці падаткам |
| оборотный капитал | зваротны капітал |
| оборотные средства | зваротныя сродкі |
| обратить внимание | зьвярнуць увагу |
| обратить внимание на необходимость | зьвярнуць увагу на патрэбу |



| | |
|---|---|
| обратить особенное внимание | зьвярнуць асаблівую ўвагу |
| общее имущество | супольная маемасьць |
| общее собрание | агульны сход |
| общественная инициатива | грамадзкая ініцыятыва |
| общественная работа | грамадзкая праца |
| обычное право | няпісанае права |
| об'явить строгий выговор | абвясьціць суворую нагонку |
| об'яснительная записка | паясьняльная запіска |
| одиночное заключение | адзіночнае зьняволеньне |
| обязать подпискою | абавязаць на пісьме |
| ожидать кого | чакаць на каго |
| оказывать (оказать) содействие | дапамагаць, дапамагчы |
| оказывать сопротивление | спраціўляцца |
| окладной лист | абкладальны ліст |
| оклад содержания | памер заработку |
| окончательное решение | канчатковае вырашэньне |
| окончание следует | канец будзе |
| окончилось благополучно | вышла на добрае |
| он хорошо разбирается в этом деле | ён добра знаецца на гэтай справе |
| операционный отдел | опэрацыйны аддзел |
| о последующем | аб наступным |
| определить на должность | прызначыць на пасаду |
| определение суда | вызначэньне суду |
| определить срок | вызначыць тэрмін |
| определить цену | вызначыць кошт |
| опросный лист | апытальны блянк (ліст) |
| оптовая торговля | гуртавы гандаль |
| оптовый склад | гуртоўня, гуртовы склад |
| оптом и в розницу | гуртам і ў раздроб |
| опытная станция | дасьледчая станцыя |
| опытно-показательное учреждение | дасьледна-паказальная ўстанова |
| орудие преступления | прылада злачынства |
| орудие производства | прылада вырабу, начыньне |
| организационный отдел | арганізацыйны аддзел |
| организационное строительство | арганізацыйнае будаўніцтва |
| организационный фонд | арганізацыйны фонд |
| освободить от обязанностей | вызваліць ад абавязкаў |
| основной закон | асноўны закон |

| | |
|---|---|
| основное производство | асноўная вытворчасьць |
| особое мнение | асобны погляд |
| оставить без последствий | пакінуць бяз выніку |
| оставление в опасности | пакіданьне ў небясьпецы |
| оставить при университете для научной работы | пакінуць пры унівэрсытэце для навуковае працы |
| оставление отечества | пакіданьне бацькаўшчыны, айчыны |
| остальные вопросы | рэшта пытаньняў |
| отбыть наказание | адбыць кару |
| ответственный работник | адказны працаўнік |
| ответственный секретарь | адказны сэкрэтар |
| отвод земли | адвод зямлі |
| отвод на суде | адвод на судзе |
| отдать в печать | здаць да друку |
| отдать в приказ | аддаць у загад |
| отдел взаимных расчетов | аддзел узаемных разрахункаў |
| отклонить ходатайство | адхіліць хадайніцтва, просьбу |
| открыватель преступления | выяўнік злачынства |
| относительно данного вопроса | што датычыць гэтага пытаньня |
| отпускная кампания | кампанія за адпачынак |
| отрасль производства | галіна вытворчасьці |
| отречение от наследства | адрачэньне ад спадчыны |
| отчетный материал | справаздачны матэрыял |
| отстаивать что | стаяць за што |
| охрана труда | ахова працы |
| официальное издание | афіцыяльнае выданьне |
| оценочная комиссия | ацэначная камісія |
| очная ставка | навочныя зводзіны |

## П.

| | |
|---|---|
| падеж скота | мор жывёлы |
| падение курса | паданьне курсу |
| памятная книжка | памятная кніжка |
| партия рабочих | гурт рабочых |
| пенсионная касса | пэнсыйная каса |
| первая (вторая) четверть луны | першая (другая) квадра |
| перевод денег | перасылка грошай |
| передаточная надпись | перадатачны надпіс |
| передать в непосредственное распоряжение | передаць пад беспасярэдны загад |



| | |
|---|---|
| передел земли | перадзел зямлі |
| перечисление из одного фонда в другой | пералічэньне з аднаго фонду ў другі |
| перечисляется | пералічаецца |
| перронный сбор | пэронная плата |
| писчая бумага | ліставая папера· |
| письменное доказательство | пісьменны довад |
| письменная работа | пісьмовая праца |
| письменные доказательства | пісьмовыя доказы |
| письменные принадлежности | пісьмовыя прылады; прылады да пісьма |
| письмо с об'явленною ценностью | ліст з заяўленаю каштоўнасьцю |
| платежная расписка | выплатны квіток |
| плечо к плечу | поплеч |
| плотность населения | гушчыня насельніцтва |
| по адресу | на адрас |
| повальная болезнь | пошасная хвароба |
| повальный обыск | пагалоўныператрос |
| по встретившейся надобности | з прычыны выяўленае патрэбы |
| повод достаточный | прычына выстарчаючая |
| подавляющее большинство | пераважная большасьць |
| повод к начатию дела | прычына да пачацьця справы |
| повышение наказания | павялічэньне кары |
| пограничная стража | прыгранічная варта |
| подать жалобу | падаць скаргу |
| податной инспектор | падатковы інспэктар |
| подать ко взысканию | распачаць спозыск |
| подать совет | даць параду, дараду |
| подвергаться наказанию | падпасьці пад кару |
| подвергнуть допросу | узяць на выпыты |
| подвергнуть ответственности | падвесьці пад адказнасьць |
| подвергнуть суду | аддаць пад суд |
| подворное владение | падворнае ўладаньне |
| поддерживать обвинение | абвінавачваць |
| подметное письмо | падкідны ліст |
| под'емные деньги | грошы на ўздойм |
| подозревать кого | думаць на каго |
| подсобное производство | дапаможная вытворчасьць |
| под председательством | пры старшыні |
| подушная подать | падушны падатак |

сад—садзіць; сьвет—сьвяціць; дзень, дзеці, дзядзька; піць, даць, ціха. Для азначэньня гукаў *дз* (і таксама—*дж*) пішацца па дзьве літары; але вымаўляюцца яны не паасобку, а разам: сядзець, дзень; сяджу, дождж.

§ 6. **Аканьне.** Гукі *о(ё), э(е)* у беларускай мове чуваць ясна толькі пад націскам: добра; цёплы; цэлы; лес і г. д.

А калі склад стаіць не пад націскам, то замест *о, э* чуваць і пішацца *а*; а замест *ё—я*: добры—дабро; цёплы—цяпло; лес—лясы; цэп—цапы; чэрап—чарапы; сьлёзы—сьляза.

§ 7. **Аб складох ры, лы, лі.** У складох не пад націскам знаходзім *ры, лы, лі* ў гэткіх словах: дрыжэць, крывавы, крыві, дрывяны, дрывамі, крышыць, крыха, грымець, хрысьціць, трыбух, трывога, брыво, трысьцінка, брысьці; глытаць, праглынуць, блыха, яблык, яблына; блішчаць і г. д.

А калі на гэтыя склады прыходзіцца націск, то тады знаходзім—*ро, ло, ле*: дрож, тросьць, бровы, кроў, дровы, крошка, гром, брод; глотка, блохі; блеск.

§ 8. **Падвойныя зычныя.** Беларуская мова мае гэткія падвойныя зычныя (або працяжна-націскныя):

*Мяккія падвойныя зычныя:*

1) *льл:* вясельле, купальле, гальлё, Ільля, сольлю, кольле, ральля, льлецца і г. д.

2) *ньн:* здарэньне, сумленьне, пытаньне, зьяўленьне, панаваньне і г. д.

3) *зьз:* рызьзё, з гразьзю, з мазьзю; зьзяньне, зазьзяць і інш.

4) *дзьдз:* судзьдзя, бязладзьдзе, бязьлюдзьдзе, разводзьдзе і інш.

5) *сьс:* каса—касьсё; волас—валосьсе; колас—калосьсе.

6) *цьц:* жыцьцё, багацьце, куцьця, сьмецьце, вецьце і інш.

*Цьвёрдыя падвойныя зычныя бываюць такія:*

1) *жж:* збожжа, раздарожжа і інш.

2) *чч:* лыч—лыччо; сук—суччо; печ—запечча, запеччу; у ваччу і інш.

3) *шш:* зацішша; каля вушшу; з роскашшу і інш.



Апрача гэтага, зычныя падваяюцца:

1) пры тым, як словы складаюцца: ссыпаць, аддаць, бяззубы, зросься, нёсься, расьсьпяваўся і г. д.

2) у прыметніках, створаных ад тых іменьнікаў, што маюць аснову на *н:* камень—каменны; вайна—ваенны; сьцяна—сьценны; рамень—раменны; палатно—палаценны; сон—сонны; вясна—вясеньні; восень—асеньні і г. д.

*Увага.* Губныя: *б, п, м* і *р* не падваяюцца; пасьля іх, каб ня зьліваць іх з галоснымі, ставіцца значок (') апостраф: бязрыб'е; п'яўка; сям'я; пер'е.

Пасьля *з* (перад мяккімі галоснымі) пішацца *ь*: зьесьці, зьезд, на зьезьдзе, зьяўленьне і г. д.

§ 9. **Прыдыханьне.** Калі слова пачынаецца з цьвёрдага галоснага (о, у, э), то перад ім можа стаяць прыдыханьне *в*, або *г*: вока—вочы; вуха—вушы; вусы, вуліца, вучань; вокны (але—акно); гэты і т. п.

Прыдыханьне сустракаецца і ў сярэдзіне слова паміж двума галоснымі: павук, навука, цівун, ніводзін і інш.

А калі слова пачынаецца злучэньнем некалькіх зычных, то перад імі можа стаяць прыдыханьне *і*, а часам *а*: імгла, імжака, іржа, іскрыпка, істужка, ігрушка, іржышча, ільняны (можа і—альняны) і інш.

§ 10. **Правапіс літары Е.**

1) *Е* чуваць ясна толькі пад націскам: хлеб, неба, сені, лета, палена.

2) У першым складзе перад націскам абавязкова пішацца *я*, а ня *е*: бяда, вяду, дзяжа, зялёны, няма, няхай, ня буду, бяз нас, бяз духу і інш.

3) У другім складзе перад націскам — толькі тады *е* замяняецца на *я*, калі ў першым складзе няма „*а*“, або „*я*“: ня-ву-чоны (2 1); ня-шы-рокі (2 1); ня была (2 1); бяз дзіцяці (2 1) і інш.

Калі-ж у першым складзе (перад націскам) ёсьць „а“, або „я“, то ў другім складзе пішацца *е*: Бе-ла-русь (2 1); це-ця-рук (2 1); се-ля-нін (2 1); се-на-жаць (2 1); не магу (2 1); без мяне (2 1) і г. д.

*Увага: Не* і *без* у гэтым разе лічацца за склад таго слова, перад якім яны стаяць.

4) У трэцім, чацьвертым і далейшых складох перад націскам (лічачы ад націску да пачатку слова), заўсёды пішацца *е:* ве$_3$-ра$_2$-цяно$_1$; ве$_3$-лі$_2$-чыня$_1$; не$_3$ вы$_2$-пускай$_1$; без$_4$ ве$_3$-ра$_2$-цяна$_1$ і г. д.

Але ў такіх словах, як—сьвят$_2$-ка$_1$-ваць, я$_3$-зы$_2$-ка$_1$-ваты— пішацца *я*, бо тут у корані *я*, а ня *е*.

5) Пасьля націску пішацца *е*. У мяккіх складох пасьля націску ў аснове слова заўсёды пішацца *е:* восень, вецер, возера, вучыцель, певень, поле; сіненькі, беленькі, патрэбен, повен; думае, чытае, думаеш, чытаеш; тое; у хаце, у садзе, сіняе неба; чытаньне, валосьсе і інш.

*Увага:* З гэтага правіла выключаюцца тыя словы, дзе „я“ ў корані, або ў канчатку слова: памяць, месяц, заяц, чэлядзь, тысяча, дзевяць, дзесяць, з нядоляй, з няволяй і інш.

§ 11. **Правапіс гукаў: з, дз, с, ц.** — Гукі *з, дз, с, ц* — калі стаяць перад мяккімі зычнымі і перад „*ь*“, то яны зьмякчаюцца: вымаўляюцца мякка, і на пісьме ў такіх разох пішацца „ь“: зьвер, зьняць, зьбіць; дзьверы, дзьве, дзьвесьце; сьвет, сьлёзы, радасьць; цьвет, цьвік, старасьць і інш.

Толькі перад мяккімі гартаннымі (задняязычнымі) „г, к, х“ — яны не зьмякчаюцца, і мяккі знак ня пішацца: згінуць, скінуць, схіліцца.

§ 12. **Правапіс ад, над, пад, перад, прад, аб.** Прыйменьнікі: ад, над, пад, перад, прад — незалежна ад таго, ці яны пішуцца разам з якім словам, ці асобна, не зьмяняюць *д* на *т* і заўсёды маюць „д“: ад хаты, над хатай, пад хатай, перад хатай; адтуль, аддаць, прадстаўнік, надпісаць, падпісаць і г. д.

Выключэньне ў слове — атрымаць.

Прыйменьнік *аб* ніколі не зьмяняе *б* на *п*:, аб пень, абсыпаць, абкідаць і інш.

§ 13. **Прыйменьні:** *раз, без* (*бяз*), *уз, з, цераз* і іншыя, што канчаюцца на „з“, — калі яны пішуцца з якім-небудзь словам разам (зьлітна), то перад глухім зычным гукам (к, п, т, х, ц, ч, ш, с) замяняюць „з“ на „с“; а перад звонкім зычным пакідаюць „з“; напрыклад: расьпіць, раскідаць, расквітацца, раскоша, распалка; бескаранна, беспасрэдна, бесстаронна; бясхібна, бяспроспы; усхадзіць, усхапіцца, усход,



установа, успамін; схадзіць, спазьніцца, спаліць; церасчур; і г. д.; але — разьбіць, бяздомны, узгадаваць, згінуць і г. д. (Значыцца, тут трэба пісаць, як чуваць). — Але калі *з* і *бяз*, пішуцца асобна, то ніколі *з* на *с* не замяняецца: з хаты, бяз хлеба і г. д.; таксама пішацца і *цераз:* цераз мост.

### § 14. Правапіс некаторых злучэньняў зычных.

1. Злучэньні *тц, чц*—чуваць, як цц; а злучэньні *тч, дч* чуваць, як чч:

| *чуваць:* | *пішацца:* |
|---|---|
| маццы (ад слова „матка“) | матцы |
| даццы (ад слова „дачка“) | дачцы |
| загатчык | загадчык |
| рэццы (ад слова „рэчка“) | рэчцы і інш. |

2. Злучэньне *дс* дае ў вымове ц, але пішацца *дз*:

| *чуваць:* | *пішацца:* | *заместа:* |
|---|---|---|
| люцкі | людзкі | людскі |
| швецкі | швэдзкі | швэдскі і інш. |

3. Злучэньне тс дае ц (як і пішацца):

| *чуваць і пішацца:* | *заместа:* |
|---|---|
| полацкі | полатскі |
| брацкі | братскі |
| брацтва | братства і інш. |

4. Злучэньні *жс, зс* даюць *с* (як і пішацца):

| *чуваць і пішацца:* | *заместа:* |
|---|---|
| боскі | божскі |
| французскі | француззскі |
| парыскі | парыжскі |
| рыскі | рыжскі і інш. |

5. У злучэньнях *стн* і *здн* зьнікае *т* і *д*:

| *чуваць і пішацца:* | *заместа:* |
|---|---|
| пачэсны | пачэстны |
| позны | поздны |
| шчасны | шчастны |
| шаснаццаць | шастнаццаць і г. д. |

6. Злучэньні *дц* і *цься* даюць *цц*:

| *чуваць і пішацца:* | *заместа:* |
|---|---|
| дваццаць | двадцаць |
| пятнаццаць | пятнадцаць |
| мыцца | мыцься |
| часацца | часацься і г. д. |

**§ 15. Склонавыя канчаткі назоўнікаў іменных** (агульная табліца).

| Склоны | Мужчынскі род | Жаночы род | Ніякі род |
|---|---|---|---|
| | **А д з і н о ч н ы  л і к.** | | |
| Назоўны | — | а (я), ь і зычны | о (а), е, мя |
| Родны | а (я) / у (ю) | ы — і | а (я) |
| Давальны | у (ю) | е (э), ы, і | у (ю) |
| Вінавальны | а (я) / — | у (ю) | о (а), е, мя |
| Прыладны (Творны) | ом (ам) / ём (ем) | ою (аю) / ёю (яю) | ом (ам), ем |
| Месны | е, і, ы, у | е (э), ы, і | е, і, ы, у |
| Клічны | е (а) / у (ю) | а (я) | о (а), е, мя |
| | **М н о ж н ы  л і к.** | | |
| Назоўны | ы — і | ы — і | ы — і |
| Родны | оў(аў) / ёў (яў) + ей(яй) / ай | аў (яў) эй, ей, ый; яй-ай | оў (аў) |
| Давальны | ом (ам) / ём (ям) | ам (ям) | ам (ям) |
| Вінавальны | ы — і, оў (аў) / ёў (яў) | ы, і / — | ы, і |
| Пр. (Тв.) | амі, ямі | амі, ямі | амі, ямі |
| Месны | ох (ах) / ёх (ях) | ах (ях) | ох, ах, ёх |
| Клічны | ы, і, ове | ы, і | ы, і |



**§ 16. Склонавыя канчаткі іменьняў прыметных** (прыметнікаў).

| Склоны | Мужчынскі род | Жаночы род | Ніякі род |
|---|---|---|---|
| | **А д з і н о ч н ы  л і к** | | |
| Назоўны | —ы, —і | —ая, —яя | —ое, —ае, —яе |
| Родны | —ога, —ага, —яга | —ое(ой), —ае(ай), —яе(яй) | —ога, —ага, —яга |
| Давальны | —ому, —аму, —яму | —ой, —ай, —яй | —ому, —аму, —яму |
| Вінавальны | як Наз. або Родны | —ую, —юю | як Назоўны скл. |
| Прыладны (Творны) | —ым, —ім | —ою(ой), —аю(ай), яю(яй) | —ым, —ім |
| Месны | —ым, —ім | —ой, —ай, —яй | —ым, —ім |
| Клічны | як Назоўны склон | | |
| | **М н о ж н ы  л і к** (агульны для ўсіх родаў) | | |
| Назоўны | —ыя, —ія | — | — |
| Родны | —ых, —іх | — | — |
| Давальны | —ым, — ім | — | — |
| Вінавальны | | як Назоўны або Родны склон | |
| Прыладны (Творны) | —ымі, —імі | — | — |
| Месны | —ых, іх | — | — |
| Клічны | як Назоўны склон | | |

## § 17. Лічэбнікі.

| | *Лічныя:* | *Парадкавыя:* |
|---|---|---|
| 1. | адзін, адна, адно | першы, ая, ае |
| 2. | два, дзьве, два | другі, ая, ое |
| 3. | тры | трэці, яя, яе |
| 4. | чатыры | чацьверты, ая, ае |
| 5. | пяць | пяты, ая, ае |
| 6. | шэсьць | шосты, ая, ае |
| 7. | сем | сёмы, ая, ае |
| 8. | восем | восьмы, ая, ае |
| 9. | дзевяць | дзевяты, ая, ае |
| 10. | дзесяць | дзесяты, ая, ае |
| 11. | адзінаццаць | адзінаццаты, ая, ае |
| 12. | дванаццаць | дванаццаты, ая, ае |
| 13. | трынаццаць | трынаццаты, ая, ае |
| 14. | чатырнаццаць | чатырнаццаты, ая, ае |
| 15. | пятнаццаць | пятнаццаты, ая, ае |
| 16. | шаснаццаць | шаснаццаты, ая, ае |
| 17. | семнаццаць | семнаццаты, ая, ае |
| 18. | восемнаццаць | восемнаццаты, ая, ае |
| 19. | дзевятнаццаць | дзевятнаццаты, ая, ае |
| 20. | дваццаць | дваццаты, ая, ае |
| 21. | дваццаць адзін | дваццаць першы, ая, ае |
| 30. | трыццаць | трыццаты, ая, ае |
| 40. | сорак | саракавы, ая, ое |
| 50. | пяцьдзесят | пяцьдзесяты, ая, ае |
| 60. | шэсьцьдзесят | шэсьцьдзесяты, ая, ае |
| 70. | семдзесят | семдзесяты, ая, ае |
| 80. | восемдзесят | восемдзесяты, ая, ае |
| 90. | дзевяцьдзесят | дзевяцьдзесяты, ая, ае |
| 100. | сто | соты, ая, ае |
| 101. | сто адзін | сто першы, ая, ае |
| 200. | дзьвесьце | двухсоты, ая, ае |
| 300. | трыста | трохсоты, ая, ае |
| 400. | чатырыста | чатырохсоты, ая, ае |
| 500. | пяцьсот | пяцьсоты, ая, ае |
| 600. | шэсьцьсот | шэсьцьсоты, ая, ае |
| 700. | семсот | семсоты, ая, ае |
| 800. | восемсот | восемсоты, ая, ае |
| 900. | дзевяцьсот | дзевяцьсоты, ая, ае |
| 1000. | тысяча | тысячны, ая, ае |
| 1.000.000. | міліён | міліённы, ая, ае |



### Скланеньне лічэбнікаў.

| | Адзіночны лік | | | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| | Мужч. род | Жаночы род | Ніякі род | |
| Н. К. | адзін | адн-а | адн-о | адн-ы |
| Р. | адн-аго | адн-ае (адн-эй) | адн-аго | адн-ых |
| Д. | адн-аму | адн-эй | адн-аму | адн-ым |
| В. | (як Н. або Р.) | адн-у | адн-о | (як Н. або Р.) |
| Пр. (Тв.) | адн-ым | адн-эй(ю) | адн-ым | адн-ымі |
| М. | адн-ым | аднэй | адн-ым | адн-ых |
| Н. К. | два | дзьве | два | — |
| Р. | двух, двох | дзьвюх, дзьвёх | двух, двох | — |
| Д. | двум, двом | дзьвюм, дзьвём | двум, двом | — |
| В. | як Назоўны | або Родны | | — |
| Пр. (Тв.) | двума, двома | дзьвюма, дзьвёма | двума, двома | — |
| М. | двух, двох | дзьвюх, дзьвёх | двух, двох | — |

*Увага.* Таксама, як два, дзьве, скланяюцца—абодва, абедзьве; абодвух, абедзьвюх і г. д.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Н. К. | тры | чатыры | пяць | трыццаць |
| Р. | трох | чатырох | пяцёх | трыццацёх |
| Д. | тром | чатыром | пяцём | трыццацём |
| В. | тры | чатыры | як Наз. | або Родны |
| Пр. (Тв.) | трыма | чатырма | пяцьма | трыццацьма |
| М. | трох | чатырох | пяцёх | трыццацёх |

| | | |
|---|---|---|
| Н. К. | сорак | сто |
| Р. | сараку | сту |
| Д. | сараку | сту |
| В. | сорак | сто |
| Пр. (Тв.) | саракма | стома |
| М. | сараку | сту |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. К. | дзьвесьце (дваста) | трыста | чатырыста |
| Р. | двухсот | трохсот | чатырохсот |
| Д. | двумстам | тромстам | чатыромстам |
| В. | як Назоўны або Родны | | |
| Пр. (Тв.) | двумастамі | трымастамі | чатырмастамі |
| М. | двухсот | трохсот | чатырохсот |

**Скланеньне лічэбнікаў зборных.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. К. | абое | двое | трое |
| Р. | абаіх | дваіх | траіх |
| Д. | абаім | дваім | траім |
| В. | як Назоўны або Родны | | |
| Пр. (Тв.) | абайма | двайма | трайма |
| М. | абаіх | дваіх | траіх |

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. К. | чацьвёра | пяцёра | шасьцёра |
| Р. | чацьвярох | пяцярох | шасьцярох |
| Д. | чацьвяром | пяцяром | шасьцяром |
| В. | як Назоўны | або Родны | |
| Пр. (Тв.) | чацьвярма | пяцярма | шасьцярма |
| М. | чацьвярох | пяцярох | шасьцярох |



## § 18. Займя (займеньнік, займеньне).

### Скланеньне займеньняў.

Займеньні асабовыя.

**Адзіночны лік.**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Н. К. | я | ты | — |
| Р. | мяне | цябе | сябе |
| Д. | мне | табе | сабе |
| В. | мяне | цябе | сябе |
| Пр. (Тв.) | мною (й) | табою (й) | сабою (й) |
| М. | мне | табе | сабе |

**Множны лік.**

| | | |
|---|---|---|
| Н. К. | мы | вы |
| Р. | нас | вас |
| Д. | нам | вам |
| В. | нас | вас |
| Пр. (Тв.) | намі | вамі |
| М. | нас | вас |

| | Мужч. род | Жан. род | Ніякі род | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| Н. К. | ён | яна | яно | яны |
| Р. | яго | яе | яго | іх |
| Д. | яму | ёй | яму | ім |
| В. | яго | яе | яго | іх |
| Пр. (Тв.) | ім | ёю (й) | ім | імі |
| М. | ім | ёй | ім | іх |
| Н. К. | увесь | уся | усё | усе |
| Р. | усяго | усяе (й) | усяго | усіх |
| Д. | усяму | усёй | усяму | усім |
| В. | як Н. або Р. | усю | усё | як Н. або Р. |
| Пр. (Тв.) | усім | усёю (й) | усім | усімі |
| М. | усім | усёй | усім | усіх |
| Н. К. | мой | мая | маё | мае |
| Р. | майго | мае (й) | майго | маіх |
| Д. | майму | маёй | майму | маім |
| В. | як Н. або Р. | маю | мае | як Н.—Р. |
| Пр. (Тв.) | маім | маёю (ёй) | маім | маймі |
| М. | маім | маёй | маім | маіх |

Таксама скланяецца—*чый, чыя, чыё.*

| | Мужч. род. | Жан. род. | Ніякі род. | Множны лік |
|---|---|---|---|---|
| Н. К. | сам | сама | само | самі |
| Р. | самога | самае(ой) | самога | самых |
| Д. | самому | самой | самому | самым |
| В. | самога | самую | само | самых |
| Пр. (Тв.) | самым | самою (ой) | самым | самымі |
| М. | самым | самой | самым | самых |
| Н. К. | той | тая | тое | тыя |
| Р. | таго | тае | таго | тых |
| Д. | таму | тэй | таму | тым |
| В. | як Н. або Р. | тую | тое | як Н. або Р. |
| Пр. (Тв.) | тым | тэй (тою) | тым | тымі |
| М. | тым | тэй (той) | тым | тых |
| Н. К. | хто? | што? | | |
| Р. | каго? | чаго? | | |
| Д. | каму? | чаму? | | |
| В. | каго? | што? | | |
| Пр. (Тв.) | кім? | чым? | | |
| М. | кім? | чым? | | |

### § 19. Правапіс чужаземных слоў.

1) Словы чужаземныя, узятыя з чужой мовы даўно (і вядомыя шырокім народным масам, як свае родныя), падлягаюць нашаму правапісу і пішуцца так, як гэта чуваць у штодзенным ужытку, напрыклад: літара, аканом (або аконам), арганісты, паляруш, калідор, леварвэр, камісія, камітэт, сэкратар, дарэктар, камуністы, сацыялісты і г. д.

2) Словы чужаземныя, што ўжываюцца ў кніжках і ў кніжнай мове і да народу не дайшлі, або дайшлі нядаўна, пішуцца так, як у тэй мове, скуль яны ўзятыя; напрыклад: тэлеграф, тэлеграма, монолёг, тэатр, дынастыя, партыя, рэдакцыя, рэдактар, інспэктар, дыктоўка, дыктант, дыктаваць, рэволюцыя, коопэрацыя, політычная экономія і г. д.

3) Заместа падвойных зычных пішуцца простыя: каса, маса, сума, комунізм, процэс, профэсар, граматыка, тэрыторыя, ілюстрацыя, ілюмінацыя, бэлетрыстыка, Голяндыя, Фінляндыя, і г. д.



Выключэньне: толькі ў некаторых словах застаецца падваеньне: ванна, бонна, манна, мадонна, Ганна, Будда, Мекка й некаторыя іншыя.

4) Чужаземнае „l“ („эль“) передаецца большасьцю мяккім „ль“, а ня цьвёрдым „л“, напрыклад: Лёндон, філёзофія, монолёг, філёлёг, лёяльны, колёквіум і іншыя, як—кляс(а), лямпа, пляц, плястыр, клямка, пляшка і г. д.

Але ёсьць і такія словы, што маюць цьвёрдае „л“ на канцы, напрыклад: капітал, артыкул, тытул, мускул, формула, протокол, канікулы, карбункул, рэгулы, фістула, адмірал і іншыя.

5) Чужаземнае „і“ пасьля зубных (д, т, з, с,) і зацьвярдзелых (р, ж, ш, ч, ц,) передаецца гукам „ы“, напрыклад: дыплёмат, дынастыя, дыктоўка, тып, тыран, актыў, актыўны, пасыў, пасыўны, позыцыя, позытыў, унівэрсытэт, асыстэнт, сынтакса, нацыя, рацыя, констытуцыя, коопэрацыя, рэжым, шыфрованы, аварыя, Баварыя і г. д., як магазын, Сымон, тыфус і іншыя.

Але пасьля іншых зычных будзе „і“ напрыклад: маніфэст, міністар, архіў, капітал, капітан, пірат, навігацыя, Сібір, сібірны, Азія, азіят, аказія, поэзія, рэцэнзія, колізія фантазія, і іншыя.

6) Чужаземнае „е“ передаецца гукам „э“, як гэта чуваць у штодзеным ужытку (фэст, пасэсар, сэсія, аптэка), напрыклад: бібліотэка, канцэлярыя, маніфэст, пэдагог, рэдактар, рэспубліка, тэатр, тэлеграф, тэхніка, унівэрсытэт і г. д., а таксама на пачатку слоў: этыка, элегія, экватар, эволюцыя, этымолёгія, элемэнт, эфэкт, Эўропа, Эгіпэт, эвангелія, (а часам пішацца і евангелія) і некаторыя іншыя.

Але пасьля чужаземнага „г“ (лацінскае „g“) і „к“ трэба пісаць літару „е“,—як і ў словах абеларушаных (ангельскі, банкет, кірмаш, кірунак, кілішак і іншыя),—напрыклад: альгебра, геолёгія, геомэтрыя, географія, геодэзія, Гедымін, Германія, Ягела (Ягайла), агент, рэгент, лягер, генэрал, легенда, інтэлігенцыя, геніяльны, анкета, анкер, букет і іншыя; а таксама ў словах: Ерусалім, епіскоп, езуіт.

7) Чужаземныя—„іа“, „іе“, „іо“ (лацінскія літары) перадаюцца злучэньнямі „*ія*“, „*іе*“, „*іо*“, а пасьля зацьвярдзеўшых гукаў—„*ыя*,“ „*ые*,“ „*ыо*,“ напрыклад: ген*ія*льны, ф*ія*лка,

*піе*тізм; гіг*іе*на, бібл*іо*тэка, бібл*іо*графія, бібл*іо*граф; спэц*ыя*льны, нац*ыя*нальны, рац*ыя*нальны, матэр*ыя*л, вар*ыя*нт, сац*ыя*лізм; эмбр*ыо*н, соц*ыо*лёгія і іншыя.

8) Мяккі знак („ь“) у чужаземных словах пішацца пасьля мяккіх „л“ і „н“ перад ётавым галосным гукам напрыклад: Вільям, мэдальён, мільён, рэльеф, барэльеф; Нью-Ёрк і іншыя.

Але пасьля чужаземных прыставак: „ад“—, „кон“—, „об“—, „суб—, перад ётавымі галоснымі ставіцца апостроф ('), а ня мяккі знак, напрыклад: ад'ютант; кон'юнктура, кон'югацыя; об'ект; суб'ект і іншыя; а таксама пасьля літары „р“: ар'ергард, бар'ер, кар'ера, кур'ер і некаторыя іншыя.

9) Беларускія йменьні людзей найлепш пісаць так, як говораць у народзе кожнае мясьцовасьці.

10) У чужаземных словах дапускаюцца такія злучэньні, як—„бю“, „вю“, „гю“, „жю“, „кю“, „мю“, невядомыя беларускай мове, у васнове слова; напрыклад: бюро, бюджэт, Дэ-Бюсі. Бельвю, Гюго; Кюрі, Жюрі, Мюзэта і таму падобныя.

11) Такія іменьнікі, як—алтарысты, арганісты, капіталісты, комуністы, тэлеграфісты і іншыя, што маюць суфікс „іст“, падобны формаю да прыметнікаў і зьмяняюцца ў родах, ліках і склонах, напрыклад: „комуністы“, „комуністыя“, скланяюцца, як—добрыя, добрых, добрым і г. д.; а паіменна: комуністы, комуністыя; комуністых, комуністым, комуністымі, пры комуністых і таму падобнае.

12) Трэба заўважыць правапіс у такіх словах, як вышэйназваныя й наступныя: адвокат, аэроплян, вокзал, вэлёсыпэд, гувэрнэр, доктар, доктрынэр, інспэктар, фэльдшар, экзамен; партыя, партыйны; аўтар, аудыторыя, аўтэнтык, аудыенцыя, аукцыон, браўнінг, лёкаут, фаўна, фэўдальны і іншыя; а таксама ў чужаземных уласных іменьнях: Мільлер, Мэкка, Тассо, Эдда; Кадікс, Люзітанія, Шіраз; Ауэрбах Бауэр, Шопэнгауэр і іншыя.

### § 20. Знакі прыпынку.

У пісанай мове ставяцца розныя знакі прыпынку.

**Пункт** (.), або *кропка* ставіцца пасьля кожнага закончанага сказу, напрыклад: „Цераз поле чалавек ідзе. З песьні слова ня выкінеш“.

**Пытальнік** (?) ставіцца пасьля пытаньня: „А што бяжыць бяз повада? А хто там ідзе?“



**Клічнік** (!) ставіцца пасьля клічу: „Добры дзень! Зачыняйце шчыльна дзьверы!“

**Коска** (,) ставіцца—для выдзяленьня 1) зваротка (обращение); 2) прыдатка (приложение); 3) пабочных слоў і выказаў; 4) для выдзяленьня аднакіх членаў у зьлітным выказе, залежных або даданых выказаў, злучаных сказаў; 5) пры паўтарэньні якога-небудзь слова, а таксама 6) перад а, бо, але, калі, дзе, які, як, каторы, ажно, хто, што, хоць, ды (=але) і ў іншых разох.

Напрыклад: 1) Цяжкая, *жнейка*, праца твая! *Дзеці!* аўсяны кісель на стале!

2) Эх ты, *Нёман*, рака! 3) Там, *здавалася яму*, павінна быць дарога да роднае вёскі.

4) Кругом *круціць* завіруха, *гуляе*, *шуміць*.

5) Гэта быў *стары*, *стары* лес.

6) Лета зьбірае, *а* зіма праядае. Галасок, *як* тоненькі валасок. Шырокі двор, *да* (=*але*) невялікі збор.

**Кропка з коскаю** (або *пункт з коскай*) (;) ставіцца тады, калі незалежныя сказы нічым ня зьвязаны і ня зусім кароткія, напрыклад:

Будзіцца са сну наша зямліца; расьце на кусьце лісточак, і зелянее тады травіца; аджыў жучок і матылёчак; шэра зязюля зранку і ўвечар яра кукуе ў садзе; павее ціхі й цёплы вецер; пойдзе скацінка ў стадзе.

**Двукроп'е** (:), або *два пункты*, ставіцца:

1) *Перад пералічэньнем*, калі ёсьць слова, што абымае ўсё пералічанае, напрыклад:

Год мае чатыры *пары*: вясну, лета, восень, зіму;

2) паміж незалежнымі сказамі, *калі адзін сказ аб'ясьняе другі*; напрыклад: „Тут ня гандаль, тут ня крама: няма дзёгцю, няма солі“;

3) *перад чужаслоўем*: „Што-ж?“ падумаў я сам сабе: *„вучыцца, дык вучыцца!“*

**У двукосьсі**, або **чужаслове** („—“) ставяцца або 1) чужыя словы, або 2) словы нечым асаблівыя (прыдатак), напрыклад: 1) „Тата!“ спытаў маленькі Міхась у бацькі: „а ці страшна ў лесе?“ 2) *„Наша доля“*—першая беларуская газэта. Мы чыталі поэму: „Новая зямля“; мы чыталі „Новую зямлю“.

**Дужкі**, або скобкі ( ) ставяцца: 1) для выдзяленьня пабочных выказаў, навуковых тэрмінаў; 2) некаторых паясьняльных слоў або пабочных думак: 1) Не сьцярпеў (грэшны я чалавек!)—узлаваўся. 2) Пакланяліся нашыя продкі грому (Пяруну), сонцу (Дажбогу) і іншым зьявам прыроды.

**Шматкроп'е**, або *трохкроп'е*, або *нєдаказ* (...) ставіцца: 1) калі думка не даказана, або перарываецца мова, а таксама 2) пры выражэньні моцнага пачуцьця, напрыклад:

Сказаў-бы я табе... але што там гаварыць?

2) Тхор!.. тхор!.. дзяржы яго!.. дзяржы псяюху!..

Эх, ды й тхор-жа!.. Вось, аж зьзяе!..

**Працяжнік** (—) ставіцца: 1) пасьля пералічэньня, дзе прапушчана нейкае слова; 2) калі хочуць затрымаць *(працягнуць)* увагу; 3) наогул, калі прапускаецца якое-небудзь слова і г. д.

Напрыклад: 1) Вясна, лета, восень і зіма—пары году; 2) Гляньце—нехта едзе. 3) Поле—жоўты пясок.

**Злучок** ставіцца: 1) Калі слова паўтараецца для памацненьня (чуць-чуць ліпіць); 2) пры складаных прыметах (цёмнасіні, сьнежна-белы); 3) у складаных прыйменьніках (з-за, з-пад, па-над); 4) для злучэньня частак *бы* (б) *жа* (ж) з папярэднім словам (рад-бы даць; каму-б гэта аддаць? А мой-жа ты, саколік!); 5) у падвойных прозьвішчах (Дунін-Марцінкевіч) і інш.

---

## КАРОЦЕНЬКІ РАСІЙСКА-БЕЛАРУСКІ СЛОЎНІЧАК

### канцэлярскіх тэрмінаў.

**А.**

Абзац—новы радок (у кніжцы, у паперы), абзац

абонемент—перадплата, абонэмэнт

абонент—абонэнт

аванс—аванс

автобиография—аўтобіографія

автор—аўтар

агент,-ство—агент, даручнік; агенцтва

агроном—аграном

адвокат—правазаступнік, адвокат

административный,-тор—адміністрацыйны, адміністратар

администрация—адміністрацыя

адрес, адресат—адрас, адрасат

ад'ютант—ад'ютант

аккуратный—акуратны

акт—акт (дакумэнт); дзейнасьць

актив—актыў

активность—актыўнасьць, дзейнасьць

акциз—акцыз

акционерное общество—акцыйнае таварыства, паявое таварыства

акция—пай, акцыя

амбулатория—амбуляторыя

амнистировать,-ия—амніставаць; амністыя

анкета—анкета, апытальны ліст

аннулировать—ануляваць, скасаваць

апелляцыя—апэляцыя

аппарат—апарат

аптека—аптэка

аренда,-датор—арэнда; арандатар

арендовать—арандаваць

арест,-стант—арышт; арыштант

арестовать—арыштаваць

артель,-щик—арцель, сябрына; арцельшчык

архив—архіў

архитектор—будаўнічы

ассенизатор—асэнізатар

асигновать—асыгнаваць

асигновка—асыгноўка

аттестат,-ция—атэстат; атэстацыя

аукцион—ліцытацыя, аукцыён

афиша—афіша.

**Б.**

Багаж—пакункі, багаж

базар—рынак

баланс—балянс

баллотировать,-вка—галасаваць (лёсаваць); галасаваньне

бандероль—бандэроля
банк государственный—дзяржаўны банк
банк заемный—пазычковы банк
банк коммерческий—камэрцыйны банк
банк промышленный—прамысловы банк
банк торговый—гандлёвы банк
„ частный—прыватны „
банкирская контора—банкірская кантора
барьер—застава, бар'ер
барыш—барыш, прыбытак
бедствие—няшчасьце
безвозвратный—беззваротны
безвозмездно—дарма, безнаგародна
безграмотность—няпісьменнасьць
безденежность—безграшоўе
беззаконие—бяспраўе, беззаконьне
беззащитный,-ность—безабаронны, безабароннасьць
безземельный,-ность—безьзямельны, безьзямельле
безлюдность—бязьлюдзьдзе
безнадежно,-ность безнадзейна, безнадзейнасьць
безнаказанность—бяскарнасьць
безначалие—бязуладзьдзе
безнравственный,-ность—распусны, распуста
безоговорочность—безагаворнасьць
безопасность—бясьпечнасьць, бясьпека
безоружный—бяззбройны, нязбройны
безосновательно—бязгрунтоўна, беспадстаўна
безостановочность—бязупыннасьць
безответственный,-нность—безадказны, безадказнасьць
безотлагательно, ный—безадкладна, безадкладны
безотчетно,-ность—несьвядома, няпрытомна, безрахубна; безрахубнасьць
безотлучно—неадлучна
безошибочный,-ность—бясхібны, непамыльны, непамылковы; непамылковасьць
безработица—беспрацоўе, беспрацоўе, безрабоцьце
безрассудность—неразважнасьць
безумец, безумный—вар'ят, шалёны
безумие—вар'яцтва, шаленства
безусловно—бязумоўна
безупречный,-ность—бездакорны, беззаганны; беззаганнасьць
безусловность—бязумоўнасьць
безучастие—бязудзельнасьць
бережливость—ашчаднасьць
беременность—цяжарнасьць
беречь—пільнаваць, захоўваць
беспамятство—бяспамяцьце
бесплатно—дарма, дарэмна, бясплатна
бесповоротность—беспаваротнасьць, раз назаўсёды
беспорядок—бязладзьдзе, непарадак
беспомощность—поўная слабасьць, бяспамачнасьць
беспорядочно,-рядок—бязладна; непарадак
беспорочность—беззаганнасьць



беспошлинный,-нность—бязмытны; бязмытнасьць
бесправный,-авие—бяспраўны; бяспраўе
беспрекословный,-вие—бясспрэчны, бясспрэчнасьць
беспрепятственно,-нность—бесьперашкодна, бесьперашкоднасьць
бесприбыльность—беспрыбытковасьць
беспризорный—бяспрыглядны
беспристрастно, беспристрастный,-нность—бесстаронна, бесстаронны бесстароннасьць
беспричинность—бяспрычыннасьць
бесприютный—бяспрытульны
бессмысленный,-нность—бяссэнсоўны, недарэчны, бяссэнсоўнасьць
бессмыслица—недарэчнасьць
бессовестность—нясумленнасьць
бессознательный,-ность—няпрытомны, няпрытомнасьць
бессомненность—пэўнасьць
бесспорный—бясспрэчны
бессрочный,-ность—бестэрміновы, бестэрміновасьць
бесстрашный—бязбоязны
бестолковый,-вость—бязглузды бесталковы, бязглуздасьць, бесталковасьць
бесхозяйственность—негаспадарлівасьць
бесчинство—непарадак, няпрыстойнасьць, бусаваньне
бесчисленный—нязьлічаны
бесчувственность—няпрытомнасьць
бешаный—шалёны, вар'ят
бешенство—шаленства, вар'яцтва
библиотека—бібліотэка, кніжня
билет—білет, картка
биография—жыцьцяпіс, біографія
биржа—біржа, гэльда
биржа труда—біржа працы
благонадежный,-ность—пэўны добранадзейнасьць
благонамеренность—добры намер
благополучие—дабрабыт
благопристойность—прыстойнасьць
благоприятный—спагадны, спрыяючы
благоприятствовать—спрыяць
благосклонность—прыхільнасьць
благоразумие—разважлівасьць
благотворительнность—дабрачыннасьць
благосостояние—дабрабыт
благотворительный—дабрачынны
благоустройство,-енность—добры парадак, упарадкаванасьць
бланк—блянк
близнец—блізьнюк
блок—блёк
блок-нот—блёк-нот
блокада—аблога
блондин—блёндын, бялявы
блуд, блудодейство—блуд, блудадзейства
блюститель—дазорца
бобыль—бабыль
бойкот—бойкот
больница—больніца, лячомніца
больной—хворы
большинство—большасьць

бочар—бондар
брак, брачный—шлюб, брак, недахоп, загана, шлюбны
бранить—сварыцца (на каго) лаяць
брань—лаянка
братоубийство—братазабойства
бред—брэд
бродяга—валацуга, бадзяга
бродяжничество—валацужніцтва, бадзяньне
брошюра—сшытак, брошура
брюнет—чарнявы
будни—будзень
будущий—будучы
буйство—буянства
буквально—літаральна
булочник—пекар, булачнік
бумага,-жный—папера, папяровы
бунт—бунт
бухгалтерия,-алтер—бухгальтэрыя, бухгальтар
бюджет—бюджэт
бюллетень—бюлетэнь, абвесьнік
бюро—бюро
бюрократизм—бюрократызм

## В.

важно,-ность—важна, паважна, важнасьць
вакансия,-нтный—вольная пасада, ваканцыя, вольны, вакантны
вакация—вакацыя
вариант—адменьнік, варыянт
валовой—валавы, агульны, гуртавы
валюта—валюта
вахта—варта
введение—уводзіны
вверение—даручэньне
ввод, вводный—увод, уводзіны, уводны
ввоз, ввозной—увоз, увозны
вдвое—удвойчы
вдлинv—удоўжкі
ведомость—ведамасьць
ведомство—установа, ведамства
в'езд—уезд
век—сталецьце
векселедатель—вэксэлядаўца
вексель, вексельный—вэксэль, вэксэльны
вексельная бумага—вэксэлявая папера
велеть—загадваць, наказваць
величина—велічыня
вено—пасаг
вентиляция—вэнтыляцыя
венчание; венчаться—вянчаньне, шлюб; браць шлюб
вера, вероисповедание—вера, вызнаньне
вердикт—прысуд
вербовать—набіраць
веритель—вернік, даручнік
верительная грамота—даручная грамата
верование—вераваньне, вызнаваньне
верста—вярста
верховная власть—найвышэйшая ўлада
верховное управление—найвышэйшае кіраўніцтва



верховный суд—найвышэйшы суд
вес, весы; весовой—вага, бязьмен; вагавы
веский—важкі, грунтоўны
вестник—весьнік
весьма—вельмі, надта
ветеринар, ветеринарный—вэтэрынар, вэтэрынарны
ветреная мельница—вятрак
вечная аренда—чынш, вечная арэнда
вещественное доказательство—рэчавы довад
вещество—матэрыя
вещное право—рэчавае права
вещь—рэч, прадмет
взаимный—узаемны, узаёмны
взаимоотношение — узаемаадносіны
взаимопомощь—узаемадапамога, узаемная дапамога
взаймы—у пазыку
в зачет—у лік
взвешивать, взвесить—узважываць, узважыць
вздорожать—падаражэць
взламывать, взломать—узламываць, узламаць
взнос—узнос, укладка, складка
взрослый—дарослы
взыскание,-тель—спагнаньне, спаганяты
взятка,-чество—хабар, хабарніцтва
видимость—відочнасьць
видоизменение—перайначваньне
виза—віза
визит—адведзіны, візыта
вина—віна, прычына
виновник—вінавайца
винокуренный завод—бровар
високосный—пераступны
вклад,-дной—уклад, фундуш, укладны
вкладчык—укладчык, фундатар
включительно,-чыць—уключна, улучна; уключыць, улучыць
вкратце—каротка
владелец—уласьнік, уладар
владение, владеть—уладаньне, уладаць
властвовать—валадаць
властитель, властный—уладар, уладны
власть—улада
влиять, влияние—рабіць уплыў, уплываць, уплыў
вменяемость, вменяемый—прытомнасьць, прытомны
вместимость—ёмасьць, зьмяшчальнасьць
вмешательство—умяшаньне
внеочередный—надзвычайны, нечарговы
внесение—здача (падатку); паданьне (проекту закона)
внешкольный—пазашкольны
внешний—знадворны, вонкавы, надворны
вносить, внести—уносіць, унесьці
вноска—дапіска
внутренний,-нность—унутраны, нутраны; нутро.
внушение—намова, навядзеньне
во-время—на часе, у пару, у пору
во-вторых—падругое
во главе—на чале
водокачка—вадакачка, вадацеч
водопровод—вадавод

военнослужащий—вайсковец
военный, воинский—ваенны, вайсковы
возбуждать дело—распачынаць справу, падымаць справу
возвращение, возврат—зварот, аддача, зьвярненьне
воздействие—уплыў
воздушный флот—паветраны флёт
воззвание—адозва
возмездие—адплата, помста
возмещение—адплата
вознаграждение — узнагроджаньне, заплата, нагарода
возникновение—вынікненьне
возобновлять, возобновить,-ление—аднаўляць, аднавіць, аднаўленьне
возражать—супярэчыць
возрождение—адраджэньне
возраст—век
вокзал—станцыя
волокита—валакіта, цеганіна
волостной—валасны
вольнонаемный—вольнананяты
вольнослушатель—вольнаслухач, вольны слухач
во-первых—папершае
вопреки—насупрэч, наперакор
вопрос—пытаньне
воскресенье—нядзеля
воспитание—выхаваньне, узгадаваньне
воспитанник—выхаванец, гадунец
воспитатель—выхавальнік, выхаваўца, выхавач
воспитательный дом—выхаваўчы дом
воспрепятствовать—перашкодзіць
воспрещать—забараняць
воспроизводить,-дение—аднаўляць, аднаўленьне
восстановить, воссоздавать—адбудаваць, аднаўляць
восстановление—адбудова, аднаўленьне, адбудаваньне
восток—усход
востребование—запатрабаваньне
вотчим—айчым
впервые—у першы раз
вполне—цалком
вполовину—напалову
впредь—на будучыну
впрочем—урэшце, адылі
враг—вораг, няпрыяцель
вражда,-вать—сварка, варожасьць, злосьць, сварыцца
враждебны,-ность—варожы, няпрыязны, варожасьць
врач, врачебный—лекар, доктар, лекарскі
временно,-нный—часова, часовы
время—час, пара
врожденность—прыроджанасьць
вручение—уручэньне
вселять—усяляць
всемирный—сусьветны
всенародный—усенародны
всеобщий—усеагульны, агульны
всесторонне,-нний—усебакова, усебаковы
всецело—суцэльна, цалком
вскользь—павярхоўна
вскрытие—раскрыцьце



вследствие—праз тое, што..., дзеля чаго
в состав—у склад
воспомоществование—дапамога, успамажэньне
вставка—дапіска
вступительный—уступны
вступление—уступ, уступленьне
вторжение—уварваньне
вторично—паўторна, у другі раз
вторник—аўторак
второстепенный—другарадны
втроем—у трох, у траіх
входящий—паступаючы
входящий журнал—журнал прынятых папер
вширину—ушыркі
выбирать—абіраць
выбор, выборы—выбар, абраньне, выбары
выборка—выбарка
выборный—абраны, выбарны
выборщик—абіральнік
выбывать,-ытие—выбываць, выходзіць, выбыцьце
вывеска—шыльд, вывеска
вывод—вывад, вынік
вывоз, вывозить—вываз, вывозіць
выговор—вымова, вымаўленьне, нагонка, выгавар
выгода, выгодный—карысьць, выгада, пажытак, карысны
выдача—выдатак, выдаваньне, выдача
выдающийся—адметны, выдатны
выделение—выдзяленьне
выделывать—вырабляць
выдержка (из сочинения)—вынятка (з твору)
выезд—выезд
выжидать, выждать—чакаць, вычакаць
вызов—позва
вызывать—выклікаць
выйгрыш—выйгрыш
выйгрышный заем—выйгрышная пазыка
выкидыш—выкідак, скідак
выключать,-чить—выключаць, выключыць, вылучаць
выключение—выключэньне, вылучэньне
выкуп, выкупной—водкуп, выкуп, выкупны
выменивание—выменьваньне
вымогательство, вымогатель—вымаганьне, вымагач
выноска—вынаска
вынуждать,-енный—прымушаць, змушаць; прымушаны
выпись, выписка—выпіс, выпіска
выплата—выплата
выплатить—выплаціць
выполнение—выкананьне
выполнять, выполнить—спаўняць, выконваць, выканаць
выпускной, выпуск—выпускны, выпуск
выражение—выражэньне
вырождаться—звадзіцца
выселять, выселить,-ление—высяляць, выселіць, высяленьне
выслать—выслаць, справодзіць
выслеживать—сачыць, пасьнерагаць
выслуга—выслуга
высокоторжественный—урачысты

выспрашивать—выпытваць
выступление—выступ, выхад
высший—вышэйшы, найвышэйшы
высылка—высылка
вытребовать—вытрабаваць
выходец—выхадзец
выходной день—дзень адпачынку
вычеркивать, зачеркнуть—выкасоўваць, скасаваць
вычет—вылік
вычитать, вычислять — вылічаць
вышеозначенный—зазначаны вышэй
вышеупомянутый—вышэйпамянёны

## Г.

гарантия—гарантыя, забясьпека
герб—гэрб
гербовый сбор—гэрбавы збор
героический—гэроічны
гигиена—гігіэна
глава—разьдзел
главная книга—галоўная кніга
глазомер—вокамер
гласность—публічнасьць
глухонемой—глуханямы
год—год
годность, годный—годнасьць, годны
годовщина—угодкі, гадавіна
голосование—галасаваньне
горнопромышленность—горная прамысловасьць
город—горад, места
городской—гарадзкі
горожанин,-жанка—гараджанін, мяшчанін, мяшчанка
госпиталь—шпіталь
господство—панаваньне
гостиница—гасьцініца
государственная казна—дзяржаўны скарб
государство,-нный—дзяржава, гаспадарства, дзяржаўны
грабеж—рабунак, грабеж
грабитель—грабежнік, разбойнік
гражданин,-анка—грамадзянін,-дзянка
гражданский—грамадзянскі
гражданский иск—грамадзянскі іск
гражданское судопроизводство—грамадзянскае судаводзтва
грамотность,-ный—пісьменнасьць, пісьменны
граница—граніца, мяжа
граничить—гранічыць, межаваць
графа, график—графа, графік
грамоздкость—грамоздкасьць
груз, грузовой—цяжар, груз; цяжаравы
грузить—накладаць
грунт—грунт
группа—група, купа
группировать, группировка—групаваць, групаваньне
губерния—губэрня
гуж—гуж
гурт—гурт

## Д.

давность—даўнасьць
данное—данае, гэтае
данный—даны
дарственная запись—даравальны запіс
дважды—двойчы



движение, движимость—рух, рухомасьць
движимое имущество—рухомая маемасьць
двойной, двойственность—падвойны, падвойнасьць
двоякий—дваякі
двусмысленность—двохзначнасьць
двухнедельный—двухтыднёвы
дебаты—спрэчка
девица—дзяўчына
девственный,-нность—дзявоцкі, дзявочы, дзявоцтва
дежурный,-ство—дзяжурны, днявальны, дзяжурства
дезертир—уцякач, дэзэртыр
дезорганизация,-ванность—разлад, дэзорганізацыя; разладзьдзе, дэзорганізованасьць
действие, делание, деяние,—дзеяньне, дзея, учынак, чыннасьць
действительно,-ность—запраўды, сапраўды, сапраўднасьць
действительный член—правадзейны член
действовать, делать—дзеяць, рабіць, дзейнічаць
декларация—дэклярацыя
декрет—дэкрэт
делегат,-ация—дэлегат, абранец, пасол, прадстаўнік, дэлегацыя
деление—падзел
дело—справа, учынак
делопроизводитель—дзелавод, справавод
делопроизводство—дзелаводзтва, справаводзтва
демаркационная линия—дэмаркацыйная лінія
демобилизовать—дэмобілізаваць
деньги, денежное взыскание—грошы, узыск грошай
день неприсутственный—дзень няпрысутны
депеша—дэпэша
депутат—дэпутат, прадстаўнік, пасол
держание—прыманьне, дзяржаньне
десятилетие—дзесяцігодзьдзе
десятина—дзесяціна
детский приют—дзіцячы прытулак
дефект—брак, загана, недахват, ганьба
дефективность—дэфэкцыйнасьць
дефицит—недабор, недастача, дэфіцыт
деятельность, действование—дзеяльнасьць, чыннасьць, дзейнасьць, дзеяньне
дивидент—прыбытак, дывідэнт
диплом—дыплём
дипломатический корпус—дыплёматычны корпус
директор—дырэктар, кіраўнік
дисконт,-тировать—адлічэньне, дысконт; адлічаць, дысконтаваць
дисциплина,-рный—дысцыпліна, парадак; дысцыплінарны; карны
дневник—дзеньнік
добавка, добавление—дабаўка, дацатак, дабаўленьне
добавочный, дополнительный—дадатковы
добровольно,-льный — самахоць, дабравольны

добросовестный,-ность—сумленны, сумленнасьць
добыча—здабытак, здабыча
доведение—давядзеньне
доверенность—даверанасьць
доверенный; доверитель—даверäны; давернік
доверие, доверять—вера, верыць
довод—довад
довольствие—харчаваньне, утрыманьне
договор, договориться — дагавор, умова, угода, дайсьці да згоды
дозволение, - енный—дазвол, дазваленьне, дазволены
дознание—дазнаньне
доказательство—довад, доказ
доклад—даклад, справаздача
докладная записка—дакладная запіска
доктор—доктар
документ—дакумэнт, папера
долг—абавязак, павіннасьць, доўг
долговой документ—доўгавы дакумэнт
долгосрочный—доўгатэрміновы
должник—пазычнык
должность—пасада
должностной—службовы
должностное лицо—службовая асоба
доля, долевой—доля, частка, долевы
домашнее имущество—худоба
домовладелец—домаўласьнік
домогательство—дамаганьне
донесение, донос—данясеньне, даказ, данос, навод, уданьне
доносчик—падказчик, даносьнік
дополнение—дапаўненьне, дадатак
дополнительный—дадатковы
доплата, доплатной—даплата, даплатны
допрос,-ашивать — допыт, выпыты, выпыт, выпытваць
допризывник—дапрызыўнік
дороговизна—даражыня, дарагоўля
дорожный—дарожны, шляхавы
доследование дела—дасьледваньне справы
дословный—літаральны, даслоўны
досмотр, досмотрщик—догляд, даглядач, дазорца, даглядчык
досрочный—датэрміновы
доставка—дастаўка
доставлять—дастаўляць
достаточность—выстарчальнасьць
достаточное основание—выстарчальная аснова
достоверность—пэўнасьць, верагоднасьць
достоверный—пэўны, верыгодны
достоинство—гонар, вартасьць; паважнасьць, годнасьць
доход,-дный—даход, прыбытак; даходны, прыбытковы
дубликат—дублікат
духовное завещание—тэстамэнт, адказ, духоўніца
душевнобольной—вар'ят, дурны
душеприказчик—выканавец духоўніцы
дюжина—тузін
дюйм—цаль



## Е.

единица—адзінка
единичный, единственный — адзінкавы, адзіночны, адзіны
единовременно—адначасна
единолично,-ный—аднаасабова,-вы
едок—ядун
ежегодный—штогодны
ежедневно—штодзенна, штодня
ежедневный—штодзенны
ежемесячный,-ник—штомесячны, штомесячнік
еженедельный—штотыднёвы
естественное право—прыроднае права

## Ж.

жалоба—скарга, жалаба
жалобщик—жалобнік
жалование—пэнсія
жаловаться—скардзіцца, наракаць
желательно—пажадана
железнодорожный—чыгуначны
женитьба—жаніцьба
жениться (на ком)—жаніцца (з кім-небудзь), ажаніцца (з кім), пабрацца (з кім)
женщина,-ский—жанчына, кабета, жаночы
жестянник—бляхар
жетон—жэтон
жизнеописание—жыцьцяпіс
жилец—жыхар, насельнік
жилище—мяшканьне, жылішча
жилищный—кватэрны
житель—жыхар
жительство—пражываньне
жребий—лёс
журнал—журнал, часопіс
журналист—журналісты, часапісец

## З.

заарендовать—заарандаваць, узяць на пасэсію
забаллотировать—забалётаваць, не абраць
забастовка—забастоўка
заблаговременно—загадзя
заведение—установа, заклад
заведение дела—завядзеньне справы
заведующий—загадчык (чаго), кіраўнік
заведывание—загадваньне
заверать, заверить—запэўняць, запэўніць
завещание—духоўніца, запіс, адказаньне, тэстамэнт
завещать—адказаць, адпісаць
зависимость—залежнасьць
завладеть—заўладаць, апанаваць
завод—фабрыка, гута, завод
заводы: винокуренный—бровар
„ дрожжевой—дражджэўня
„ железо-плавильный—рудня
„ кирпичный—цагельня

заводы: кожевенный—гарбарня
» лесопильный—лесапілка
» литейный—гісэрня
» маслобойня (раст. масло)—алейня
» маслобойня (жив. масло)—маслабойня
» медноплавильный—катлярня
» металло-плавильный—гамарня
» мукомольный (паровая мельница)—паравы млын
» мыловаренный—мылаварня
» пивоваренный—піваварня
» пороховой—парахоўня
» сахарный—цукраварня
» смолокуренный—смалярня, смалакурня
» стеклянный—шкляная гута

заглавие—загаловак
загородный—загарадны
заготовка,-ление—загатоўка, загатаўленьне
заготовщик—рыхтавальшчык
заграничный—замежны, закардонны, заграні́чны
задание—заданьне
задаток—задатак
задача—задача
задержание, задержка—затрыманьне, задзержка
задолженность—задоўжанасьць, завінавачанасьць
заем бессрочный—бестэрміновая пазыка
заемнае письмо—пазычковы ліст
зажиточность—заможнасьць
заимообразно—у пазыку
заимствовать—запазычаць
заказ, заказчик—заказ, заказчык
заказное письмо—забясьпечаны ліст, заказны ліст
заклад, закладной—застава, застаўны
закладная—застаўны ліст, акт аб заставе
закладчык—застаўнік
заключать,-чить договор—рабіць, зрабіць умову
заключаться (в чем)—месьціцца, знаходзіцца
заключение (дела, брака)—заключэньне (справы, шлюбу)
заключение (лишение свободы)—зьняволеньне
заключенный—зьняволены
закон общегосударственный—закон агульнадзяржаўны
закон основной—закон аснаўны
законность—законнасьць
законный—законны, праўны, правадаўчы
законодательный—законадаўчы
законодатель—законадаўца
законодательство—законадаўства, правадаўства
закономерность—правамернасьць, законамернасьць
законоположение—законапалажэньне
законопреступник—правапарушнік, злачынец
закрытие—зачыненьне, закрыцьцё



закрытое заседание—зачыненае пасяджэньне
закупка—закупка
зал, зала—заля
залог—залог, застава, заклад; стан (граматычны)
залоговое свидетельство—застаўны ліст, залогавае пасьведчаньне

занимать / занять:
1) пазычаць, пазычыць (грошы)
2) цікавіць, зацікавіць (інтэрас)
3) бавіць, забавіць (гасьцей)
4) займаць, заняць (прастору)

заносить, занести—занасіць, занесьці
занятие—занятак, заняцьце
заочно—завочна
заочный приговор—завочны прыгавор
заочное решение—завочны прысуд
запас—прыпас, запас
запасать, запасти—рабіць, зрабіць запас
запасной—запасны
записка докладная—дакладная запіска
запись—запіс
запись дарственная—даравальны запіс
заповедный—ахоўны
запретительная статья—забаронны артыкул
запродажа, запродажная запись—запродаж, запродажны ліст
запрос—запытаньне
заработная плата, заработок—заработная плата, заработак
засвидетельствование—засьведчаньне, пасьведчаньне
заложник—закладнік, застаўнік
заместитель,-ница—намесьнік
заметка—заметка, нататка
замечание—увага
замещать, замещение—замяшчаць, заступаць, замяшчэньне
засвидетельствованы—пасьведчаны
засвидетельствовать—пасьведчыць
заседание—пасяджэньне
заслушиваць, заслушаць—слухаць, заслухаць
застава (рогатка)—застава
застраховываць,-вать—забясьпечваць, забясьпечыць, застрахоўваць, застрахаваць
заступник—абаронца, заступнік
за счет—коштам
затрата—выдатак
затяжка—цеганіна
зачеркнуць—закасаваць
зачет—залік, залічэньне
зачислять,-слить—залічаць, залічыць
зачитывать, зачесть—залічаць, залічыць, зачытаць (кнігу)
защитник—заступнік, абаронец
заявитель—заяўнік
заявка—заяўка
заявление—заява, заяўленьне
звание—годнасьць

звонкая монета—мэталёвыя грошы, звонкая монэта
здравоохранение—ахова здароўя
земельный—зямельны
землевладелец—зямляўласьнік
земледелец, землепашец—земляроб, рольнік, ратай
земледелие — землявробства, рольніцтва
землемер—каморнік
землекоп—грабар
землеустройство,-итель — зямляўпарадкаваньне, зямляўпарадчык
земство, земский — земства, земскі
зерновой хлеб—збожжа
злонамерный,-енность — зламысны, злонамерны, злонамернасьць
злоумышленник — злоўмысьленьнік
злоупотребление — злоўжываньне
знамя—сьцяг, штандар
золотая валюта—залатая валюта
золотошвейка—золаташвачка
зонтовщик—парасоньнік
зрелище—відовішча
зрительный зал—глядзельня, відоўня
зубной врач — зубны лекар, дантысты
зубоврачебный кабинет—дантыстычны габінэт
зуботехнік—зубатэхнік

## И.

игнорировать—не зважаць, занядбаць
иждивение, иждивенец—утрыманьне, утрыманец
избиратель—выбіральнік
избирательный—выбіральны
избирать, избрать — выбіраць, выбраць
избрание — выбары, абраньне
избыток—перавышка, збытак, лішак
известие—вестка
известно—ведама, вядома
известный—вядомы, пэўны
извещать—паведамляць
извещение—паведамленьне
извинение—выбачэньне, прабачэньне
извлечение прибыли—атрыманьне прыбытку
извлечение—вынятак
извоз—павозьніцтва
извозчик—возьнік, падвозьнік
изготовление, изделие—выраб, вырабка
издание—выданьне
издатель, издательский—выдавец, выдавецкі
издательство—выдавецтва
изделие—выраб
издержка,-жки—страта, выдатак, кошты, выдаткі
издержаць—страціць, выдаць
излагаць—выкладаць
излишек—збытак, лішак
излишний—лішкавы, надмерны
изложение—выкладаньне, выклад
изменение—зьмена
измерение—памер



измерять, измерить — мераць, вымераць, зрабіць памер
изобличать,-чить—раскрываць, раскрыць
изобличение—высьведчаньне
изобретатель—вынаходца, выдумшчык
изобретать—вынаходзіць, вымысьляць
изобретение—вынаходка
изолировать — ізаляваць, абасабляць
изоляция—адасабленьне, ізаляцыя
изыскать,-ние—знайсьці, вышукаць, вышуканьне
из'являть, из'явить—выяўляць, выявіць
из'ятие—вынятак, выняцьце
имение—двор, маёнтак, маёмасьць
именной—іменны
именоваться—менавацца, празывацца
имущественный—маёмасны
имущество недвижимое—маёмасьць нярухомая
инвентарь—інвэнтар
инспектор, инспекция—інспэктар, інспэкцыя
институт—інстытут
инструктировать—інструктаваць, наказваць, даваць наказ
инструктор, инструкция—інструктар, інструкцыя, наказ
инструмент—прылада, струмант, начыньне
интернат—інтэрнат
интернационал, интернациональный—інтэрнацыянал, інтэрнацыянальны, міжнародны
информация—асьведамленьне
информировать—асьведамляць
иск—іск, спозыск
искажение—перакручваньне
исключать,-чить выключаць, выключыць
исключение—выключэньне, вынятак
исключительное положение—выключнае палажэньне
исключительный,-ность—выключны, выключнасьць
исковое прошение—іскавая просьба
исполнение—выкананьне, выпаўненьне, спаўненьне
исполнительный—выканаўчы (камітэт); спраўны (чалавек)
исполнительный лист,—выканальны ліст
исполнять—выпаўняць, выконваць, спаўняць
исполнитель—выпаўніцель,-ніца
исполнительность—спраўнасьць
использовывание, использовать—скарыстаньне, скарыстаць
исправительный—папраўчы
исправительный дом—спраўляючы дом
исправный—спраўны, дакладны
испрашивать,-просить—прасіць, выпрасіць
исследование—дасьледваньне, досьлед
исследовать,-атель—дасьледваць; дасьледнік
исследовательский—дасьледчы
истекать—зыходзіць
истец—спазышчык, ісьцец
истечение—зыход

истолковывать, истолковать—вытлумачваць, вытлумачыць
источник—крыніца
истребовать—вытрабаваць, зажадаць
исход дела—вынік справы
исходить, исходный—выходзіць, выходны
исходящий—выбываючы, адасланы
исчерпывать, исчерпать—вычэрпываць, вычарпаць
исчисление—вылічэньне
исчислять,-слить—вылічаць
итак—такім спосабам, такім чынам
итог—падсумак
итого—разам

## К.

кабальная сделка—кабальная ўгода
кабинет—габінэт
казенный—скарбовы, дзяржаўны
казна, казначей—скарб, скарбнік
казначейство—скарбовая каса, скарбніца
календарь—каляндар
камера—камэра
каникулы—адпачынак, вакацыя, вакацыі
канцелярия,-ский—канцэлярыя, канцэлярскі
капитал—капітал
капитальный—грунтоўны
касательно—датычна, што датычыць
касса сберегательная—каса ашчаднасьці
кассация—касацыя
кассироваць—скасаваць
кассир—касір, скарбнік, касіер
кассовая книга—касавая кніга
каталог—каталёг, кнігасьпіс
категория—катэгорыя
категорично—рашуча
качество,-ственный—якасьць, якасны
квадрат, квадратный—квадрат, квадратны
квалификация—кваліфікацыя
квитанция—квіт, квіток
классификация—падзел
клеймо—знак, штэмпаль, таўро, кляймо
кодекс—кодэкс, зборнік
кодификация,-тор—кодыфікацыя, кодыфікатар
колебание курса—хістаньне курсу
количество, количественный—колькасьць, колькасны
коллегия—колегія
коллектив—колектыў, суполка
коллективная собственность—супольная ўласнасьць
коллективный—колектыўны, зборны
командировка—камандзіроўка
комиссар,-ссариат—камісар, камісарыят
комиссия—камісія
комитет—камітэт
коммерческий—комэрцыйны, гандлёвы
коммуна,-нальный—комуна, комунальны
компания—компанія, таварыства
комплект,-ктовать—комплект, комплектаваць
конверт—конвэрт



конвенция—конвэнцыя, умова
конвой—канвой, ганавод
конкурс, конкуренция—конкурс, конкурэнцыя
конспект—конспэкт
конструкция—пабудова, конструкцыя
конституция,-ционный—конституцыя (дзяржаўны статут), конституцыйны
консул, консульство—консул, консульства
консультация—дарада, парада, консультацыя
контора—кантора, бюро
конторская книга—канторская кніга
контрабанда,-бандист—контрабанда, качмарства; качмар, шмуклер, контрабандысты
контракт—контракт, умова
контроль, контролер—контроль, контролёр
конфискация—конфіскацыя, атабраньне
концессия—концэсія
кооперация,-тивный,-тив—коопэрацыя, коопэрацыйны, коопэратыў
копия—копія
кормовые деньги—харчовыя грошы
корпорация—склад, корпорацыя
корреспонденция,-ндент—допіс, дапісчык, корэспондэнт
косвенный налог—пасрэдны падатак
крайняя необходимость—канечная патрэба
кратковременный—на кароткі час, кароткачасовы
краткосрочный—кароткатэрміновы
кредит, кредитный—павер, паверны; крэдыт, крэдытны
кредитование—выдача на павер, крэдытаваньне
кредитор—павернік, крэдытар, пазычальнік
кредитоспособность—крэдытаздольнасьць
криминалист—крыміналісты
круговая ответственность—кругавая адказнасьць
кружок—гурток
крупное производство — вялікі выраб
крупный—буйны
купец,-ческий—купец, купецкі
купля, купить—купля, купляць
курс, курсы—курс, курсы
курьер—пасланец
кустарь, кустарный—саматужнік, саматужны

## Л.

лавка—крама
лавочник,-чница,-вочный—крамнік, крамніца, крамны
лазарет—шпіталь
ларек—скарбец
легализация—узаканеньне, легалізацыя
лесоводство—лесагадоўля; бор (хваёвы лес)
лесник—лясьнік, палясоўшчык
лесосека—пасека
летосчисление—годалічэньне
лечебница—больніца
лечение, лечебный—лячэньне, лекавы

